PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2000) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 11 ВЕРАСНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## КАРАВАЙНАЕ

Як нечаканы госць загрукаў у мае аднастайныя белавежскія будні ніўскі двухтысячнік.

— Толькі 2000!? — здзівіўся я мажнаму дзецюку: даўно адвык ад сачэння за ягоным узростам. — А мне здавалася, старэйшы ты.

— Так змяніўся? — пераможным позіркам глядзіць прышэлец.

— Змяніўся час. І ты яму падуладны. Ды нораў у цябе ранейшы, беспакойны...

І тут успомніліся — павівальны перыяд, гады дзяцінства, маладосці і сталасці задавакі. Не, 2000 нумароў для тыднёвіка — гэта салідны стаж, беларускага выдання тым больш — па-за Беларуссю па даўгавечнасці не было і няма такога другога. Жывучы дзяцюк! А ўжо пры нарадзінах заплотныя празорцы прарочылі табе няўхільна канец у павівальнай стадыі, потым лятальны зыход адтэрмінавалі на маленства і г.д. А ты ўсё ж жывеш! Хоць і цяпер нямала міфатворцаў, што ў жывучасці тваёй бачаць сатанінскую сілу і час ад часу клыпаюць на блазенскую трызну па табе, ты не здаешся. Знаёмая рыса. І мяне праціўнікі няраз заганялі, здавалася б, у бязвыхадны кут. Ды знаходзіўся дух і спрыт выбірацца з пастак. Гэтая гульня, хоць і назаляла, але і выкрасала энергію да дзеяння. Галоўным напрамкам — чытач, ён у нас заўсёды быў на першым плане. І чытач адчуваў нашы імкненні, адплачваў спагадлівай ласкай, прыхільнікаў нашых з кожным годам прыбывала, умацоўвалася і пашыралася чытацкая база... Загаварыўся як на з'ездаўскай трыбуне, таму мяняю ўхіл. Цяпер можна. З „ухіламі" ніхто не змагаецца. А нам за іх часта мылілі шыю. Балела, бо ў час свайго рэдактарства я па-за „Нівай" не бачыў свету, жыў ёю кругласутачна, яна стала справай майго жыцця. І за сабою (а гэта значыць і за „Нівай") не адчуваў сур'ёзных правінаў.



*З'езд карэспандэнтаў — 1977 год.*

Журналіст абавязаны глядзець на свет адкрытымі вачыма. У яго зрэнках і схаваны ўвесь сакрэт журналісцкага майстэрства. Авалодаеш сваім зрокам, ты — майстар. Убачыш мала і дрэнна — і раскажаш у той жа манеры. Работніку пяра перш за ўсё трэба вастрыць зрок, інакш чакае цябе страшная прафесійная хвароба Руціна, а больш зразумела — звычка. Яна асляпляе і зоркія вочы. Праходзіш побач пабудоў, людзей — і не бачыш іх. Прывычаіўся. І раптам здзіўляешся: прыехаў на дзень-два варшавяк і з-пад твайго носа выкраў знаходку, на якую толькі цяпер ты звярнуў увагу, і яна ашаламіла цябе нечаканасцю. Так бывае з намі. Таму, хоць і ўміляюць мяне заклікі былых маіх вясковых памагатых („Адгукніцеся, сябры карэспандэнты!" і г.д.), якія маюць штурхаць слаўны ніўскі авангард да творчых парываў, я не спадзяюся на дзейсны водгук. Няма аб чым пісаць, прытупіўся зрок. Не ў кожнага хопіць поразу ў парахаўніцы. Іншы час, іншыя і павінны быць песні. І песняры таксама.

Дык вось, дзяцюк мой, пастаянна вастры свой позірк — і перад табою не згасне будучыня.

**Георгій Валкавыцкі**

## З „Нівай" жыць — мая радасць і мэта

Вось і маем слаўны юбілей „Нівы" — 2000-ны яе нумар! Гэта важная падзея і шмат гісторыі, бо толькі падумаць — на Беласточчыне змагла ўкараніцца беларуская газета.

Існуе яна ўжо 38 гадоў. За гэты перыяд шмат што адбылося на беларускай ніве і ў нашым грамадстве. Значыць, былі і ёсць адданыя людзі, якія рупяцца пра зерне беларушчыны ў нашым народзе. Маем „Белавежу" і яе аўтараў, іхнія кнігі, маем Галоўнае праўленне БГКТ (гэта яно і пачало выдаваць „Ніву" вясною 1956 года). Як сёння памятаю першы нумар „Нівы" — прынёс яго ў хату лістаноша, а я, пацан у шостым класе, нават не ведаў, што бацька мой падпісаўся на гэту газету. Вось як я з ёю пазнаёміўся.

У хаце пачуўся прыемны пах друкарскай фарбы. Дык, давай, чытаць яе, нібы беларускі буквар у школе. Не прыгадаю ўжо загалоўкаў артыкулаў, але спадабалася там усё. Памятаецца толькі, што нейкі аўтар пісаў манаграфію або аповесць пра Ілью Клімовіча з Грыбоўшчыны-Вершаліна.

Праз некалькі гадоў, бо восенню 1959 года пішу я ліст у рэдакцыю „Нівы". Пішу, што маю ў хаце некалькі беларускіх кніжак: „Гісторыя беларускай літаратуры" М. Гарэцкага, выдадзеная ў Вільні ў 1924 годзе і „Беларускі каляндар" на 1914 год з „Нашай нівы" (моцна патрэпаны і няпоўны). Напісаў, што магу выслаць гэтыя кнігі ў рэдакцыю, калі яны там спатрэбяцца... Праз некалькі дзён атрымліваю ліст ад самога галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага. Піша мне, каб я прыслаў кніжкі, за што рэдакцыя будзе мне вельмі ўдзячная, а таксама перадае паклон мне і маёй сям'і. Кніжкі выслаў я ў рэдакцыю, за што атрымаў 75 злотых узнагароды (вялікі грош, як на той час).

Ну, што ж, першы падыход быў зроблены. А можа нейкі артыкул туды паслаць, падумалася мне. Зрабіў гэта, калі добра памятаю, неяк напрыканцы 1959 года. І, надзіва, надрукавалі. Гляджу — ніякай памылкі і быць не можа. Стаіць маё імя і прозвішча. Давай тады пісаць далей. Вядома, апрацоўвалі там мяне, памылак не бракавала, як і сёння іх не бракуе, а да таго марудны стыль, расцягнуты. У школе так вучылі, што ж зробіш. Але дзякуючы „Ніве" падвучыўся я крышку роднай мове.

Зімою 1960 года прыняў я ўдзел у першым з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы". Атрымаў першую ўзнагароду: пяцітомнік твораў Кузьмы Чорнага з рук старшыні ГП БГКТ сп. Лідзіі Бялецкай. Радасці маёй не было канца.

Пісаў далей. Але аднаго разу, на пачатку лета 1962 года, усадзіў адну памылку. А зараз і другую. Напісаў артыкул пра вёску Елянку, дзе нават і не быў. Напісаў, што ў гэтай вёсцы „культурная моладзь", а таксама праведзеная электрычнасць. У сапраўднасці ж ні першага, ні другога там не было.

Рэдакцыя пра гэта даведалася і перастала мяне друкаваць. Напісаў я востры ліст у „Ніву". Пасварыўся. Але „Ніву" не кінуў. Далей купляю і чытаю кожны нумар. Праз два гады, у 1964, ізноў пішу даўжэйшы артыкул у „Ніву", а пад ім пячатка і подпіс старшыні Дубіцкай гміны, маўляў, хлусні ў ім няма. Паверылі і надрукавалі — гэта была мая другая радасць. Давай пісаць далей. З пячаткай, зразумела. Пасля некаторага часу атрымліваю ліст ад Георгія Валкавыцкага і Міхася Хмялеўскага — пячатка ўжо не патрэбная, вельмі.

У 1965 годзе стаў я лістаношай у Дубічах-Царкоўных. Пачаў таксама распаўсюджваць „Ніву" ў Дубічах і ў іх наваколлі. Раблю гэта па сённяшні дзень. Зразу павялічыў я колькасць падпісчыкаў з 10 да 50. У наступным годзе маёй працы было іх ужо 100. Рэкордная колькасць прыпадае на 1970-85 гады, бо тады разносіў я больш за 200 экземпляраў „Нівы". Падпіска была гадавая. Здаецца мне, што і цяпер я распаўсюджваю найбольш, хаця далёка ўжо да таго ліку 200.

За гэты кавалак часу шмат што змянілася ў „Ніве", новыя людзі цяпер у ёй, а час цяжкі для ўсіх нас наступіў. Але галоўнае — не падаць духам. Артыкулы мае, напэўна, часта былі надта вострымі, часамі каго-небудзь паранілі, але ўсе мы — толькі людзі. Прашу ў іх прабачэння. Цешыцца сэрца, што „Ніва" дасягнула такі слаўны юбілей, выхад у свет 2000-га свайго нумара.

**Мікалай Панфілюк**

# Мае ўспаміны

Калі падумаеш, здаецца, што гэта ўчора выйшаў у свет першы нумар „Нівы". Але дакладна падлічыўшы, аказваецца, што гэта ўжо амаль сорак гадоў мінае. Колькі тады было радасці і ўцехі! „Ніву" чыталі паасобку і гуртам, супольна абмяркоўвалі памешчаныя ў ёй матэрыялы. Газета стала найлепшым прыяцелем і сябрам. Здавалася, што тыдню не будзе канца, чакаючы новага нумара тыднёвіка. А ў ім цікавіла ўсё, усе публікацыі выклікалі вялікую ўвагу да іх.

Не забуду таго, як завязалася маё супрацоўніцтва з „Нівай". У суседа здарылася бяда — трагічна загінуў яго сын. Смерць ён знайшоў на правадах. Напісаў я аб гэтай трагедыі ў „Ніву", па-беларуску, бо ў школе я моцна падружыў з роднай мовай, а пакойны ўжо настаўнік Карпюк неадночы хваліў мяне за гэта. Неўзабаве допіс надрукавалі. Кальнула штосьці пад лыжачкай, калі прачытаў я карэспандэнцыю, падпісаную маім прозвішчам. Не мог я паверыць: праўда гэта ці сон? Перачытваў яе некалькі разоў. І так вось пачалося. Пісаць стаў я часцей і смялей.

А жыццё плыло і падносіла новыя тэмы для допісаў. Памятаю першы з'езд карэспандэнтаў. Пазнаёміўся я тады з галоўным рэдактарам, які заўсёды знаходзіў час для размовы з намі, з журналістамі і іншымі працаўнікамі рэдакцыі. Помніцца мне мілая Вера са сваёй лагоднай усмешкай і „Зорачка", якая заўсёды дбала пра нашых дзетак.

Усё прайшло нібы адзін дзень, толькі ўспаміны засталіся. Маршчыны гусцей укрылі нашыя твары. Многа сяброў адышло на той свет. Час усё мяняе! Здавалася, камуна моцнай была, а цяпер здаецца, што быццам яе і не было, што заўсёды так было, як сёння. Магло б так і астацца, каб толькі трохі больш дабрабыту было і добрыя адносіны паміж людзьмі замацаваліся.

Прамінулі тыя дні, калі нас, карэспандэнтаў, мноства было. Не на адным з'ездзе поўная зала нас збіралася. А дзе вы цяпер, сябры? Куды закінула вас жыццё? Адзін аб адным мала ўжо ведаем. Маркую, што Пётр Байко, пэўна, далей па пушчы вандрue, а Хведар Хлябіч, мабыць, на беразе вадасховішча адпачывае, загарае, рыбу ловіць і толькі час ад часу па радыё адазвецца. Мікалай Лук'янюк, так як і я, з гмінным управай звязаўся і сялянам жыццё папраўляе. А Мікалай Панфілюк, пэўна, надалей газеты па вёсках развозіць і культуру пашырае. Дзякуй яму за гэта! Андрэй Гаўрылюк у Польшчу падаўся і там нашу мову сярод палякаў прапагандуе. Смелы хлапчук! А Міхась Куптэль над морам прыжыўся і як рыба аб лёд б'ецца, каб родную мову там не забыць. Цяжка яму, ой, цяжка! А некаторыя карэспандэнты літаратарамі сталі. Напрыклад, Васіль Петручук — свой чалавек, вясковы, а што „Ніва" зрабіла з яго! Кніжкі піша, а калі не піша, дык прадае іх! Далей так трымай, сябра мой!

Некаторыя здрадзілі нас. Цесна ім у „Ніве" было, сынам блудным. У іншым месцы яны цяпер шчасця шукаюць.

Няўмольны час адабраў у нас актыўнасць, а наслаў ляноту; штораз менш на старонках „Нівы" матэрыялаў старых карэспандэнтаў. Дзякуй тым, якія яшчэ не выпусцілі пяра з рук.

Калі я пачынаў пісаць у „Ніву", штораз то новыя тэмы ўзнікалі ў галаве. Пабываў я на кожнай старонцы, а нават у альманах „Белавежы" трапіў. А цяпер ужо няма ахвоты нават нейкую кароткую нататку напісаць. Лепш, думаю, паляжу або што-небудзь пачытаю. Пэўна гэта старасць робіць сваё.

Часам думаю, што „Ніва" і без мяне пражыве. І жыве. Гляньце, колькі нумароў пабачыла белы свет, што аж не хочацца верыць! Дзякуй Богу, што „Ніва" жыве, бо калі мова загіне, тады і народ прападзе!

Красуйся надалей, дарагая „Ніва", і здабывай як найбольш чытачоў!

Твой адданы прыяцель

**Грыша Мароз**



*З'езды карэспандэнтаў праходзілі ў сяброўскай атмасферы (1988 год).*

# НАШ СУПОЛЬНЫ ЮБІЛЕЙ



*Уладзімір Сідарук: — Гэта і мой юбілей...*

Як хутка ляціць час! Не паспееш агледзецца, а ўжо дня няма, затым тыдня, месяца...

Памятаю як паслаў я ў „Зорку" малюнак на конкурс. Атрымаў казкі ў узнагароду. Пасля напісаў кароценькую інфармацыю аб Кузаве. Надрукавалі ў „Ніве". Колькі ж было радасці... Гэта было ў красавіку 1959 года.

Так пачалося маё знаёмства з „Нівай". Аж верыць не хочацца, што з тых дзён мінула 35 гадоў. Гэта мой юбілей! І хоць трэба было яго святкаваць некалькі месяцаў таму, раблю тое зараз, разам з „Нівай".

У маёй сяброўкі, асаблівая нагода — выйшаў 2 000 нумар. Можна сказаць, што гэта наш супольны юбілей!

Вернемся, аднак, да ўспамінаў, як заўсёды бывае пры такіх нагодах.

Нельга забыць першыя сустрэчы з журналістамі „Нівы", карэспандэнцкія з'езды... Сардэчная, сяброўская атмасфера, вясёлы настрой, жарты. Дагэтуль памятаю сваіх старэйшых калег: Эдварда Шчасновіча і Эдмунда Вайсковіча. Яны на кожным з'ездзе „весялілі" прысутных. І Грыша Мароз далучаўся да гэтай кампаніі. Дзе яны зараз? Чым займаюцца?..

З некаторымі карэспандэнтамі па сённяшні дзень сустракаюся на старонках „Нівы". Пётр Байко, Мікалай Панфілюк, Аўрора, Андрэй Гаўрылюк — яны „Ніву" не падводзяць.

Са мною бывала па-рознаму. Былі перыяды, калі спыняў я сваю карэспандэнцкую дзейнасць. Знаходзіўся я тады „на раздарожжы", а потым „выходзіў на прыволле". Розныя былі гэтаму прычыны, між іншым, канфліктны характар, як гэта гаворыць некаторыя ў мяне на рабоце.

У сваіх карэспандэнцкіх публікацыях я заўсёды ставаў у абарону справядлівасці, ставіў пад ганебны слуп грамадскай думкі бюракратаў, лодыраў і хуліганаў, кляймію хібы штодзённага жыцця. Цешыўся я заўсёды, калі быў надрукаваны адказ на маю крытыку, калі паведамлялася, як вырашаецца закранутая мною нейкая праблема. І хацелася пісаць. А зараз? Хто адкажа табе на крытыку? Дзе знойдзеш нейкую справядлівасць?

„Ніву" людзі сталі менш чытаць. У Чаромсе, напрыклад, у кіёск на пероне чыгуначнай станцыі пастаўляецца 10 экземпляраў газеты, прадаецца ўсяго два-тры экземпляры. Чаму так? Цяжка сказаць.

На маю думку, прычына заключаецца ў тым, што людзі надта змучаны праблемамі штодзённага жыцця, цяперашняй гаспадарча-палітычнай абстаноўкай у краіне. Тэлебачанне таксама адыгрывае ў гэтым сваю ролю. У свабодны час сядзіць сабе чалавек перад тэлевізарам і не адыдзе, пакуль не агляне ўсіх фільмаў. Навошта тады яму чытаць?!

Мне здаецца, што і ў „Ніве" не кожны знойдзе зараз цікавую сабе публікацыю. Тычыцца гэта перад усім чытачоў з круга школьнай моладзі і падлеткаў. Маладых некалі прыцягвалі такія рубрыкі як: „Песні па заяўках", „Сардэчныя тайны", „Пазнаёмімся". Мяне, напрыклад, цікавілі рубрыкі: „Кажуць, што...", „Якія мы людзі", „І так бывае", „З маёй званіцы", „Людзі добрай работы".

Зараз недзе ўсё прапала. Не хапае тэмаў? А мо я проста не прыкмячаю іх?

Не стану цяпер працягваць свае сумныя рэфлексіі над усёй абстаноўкай. Да гэтых спраў буду вяртацца не раз у сваіх публікацыях. А сёння, жадаю сваёй „Ніве" наступных двух тысяч нумароў, а сябрам журналістам — добрага здароўя! Галоўнае, каб адолелі мы супольна ўсе цяжкасці нашага нялёгкага жыцця.

**Уладзімір Сідарук**



# У ЗЫХОДНЫМ ПУНКЦЕ

Цяжка ацэньваць „Ніву" таму, хто прапрацаваў у ёй 25 гадоў, так як цяжка было б ацаніць сваю маці, бацьку, дзяцей, вёску, у якой нарадзіўся, — адным словам, усё, што найраднейшае. З упэўненасцю, аднак, можна сказаць, што на працягу доўгіх гадоў не толькі рэдакцыйны калектыў, але і нашы карэспандэнты, і чытачы адчувалі сябе ў рэдакцыі як у бацькоўскай хаце. Тут разам мы цешыліся і смуткавалі, дзяліліся сямейнымі радасцямі і горам. Тут, як у сябе дома, сустракаліся і дыскутавалі нашы карэспандэнты, лістаношы, якія разносілі „Ніву". Сюды мог заўсёды зайсці і звычайны вясковы чалавек, выжаліцца і папрасіць дапамогі: у „Ніве" ён бачыў свайго абаронцу. І не здарылася такое, каб нехта не пагутарыў з ім, не напаіў шклянкай чаю і не заняўся яго, часамі нялёгкай, справай.

**„Ніва" заўсёды была перш за ўсё для беларусаў Беласточчыны — каб паверылі, што яшчэ не ўмерлі.** Была хронікай іх жыцця ў кожнай праяве.

Але адначасова яна сталася своеасаблівым **мастом** між Усходам і Захадам, нябачнай ніткай, якая звязвала ўсё, што беларускае. У Менску чакалі ад „Нівы" нечага адкрыўчага, такіх фактаў і артыкулаў, якіх у той час там не змяшчалі ў газетах. А „Ніва" выцягвала на белы свет разынкі з беларускай гісторыі і літаратуры, свядома ці несвядома забытыя імёны беларускіх дзеячоў, пісьменнікаў — змагароў за беларускае адраджэнне. Тое, што сёння на Беларусі сталася нормай, тады — друкаванае ў „Ніве" — здавалася іншаму дзіковінкай, а некаторыя дадумаліся навдат акрэсліваць нас за гэта „буржуазнымі нацыяналістамі". Не дзіўна, што найбольш свядомым беларускім вучоным і пісьменнікам з Беларусі даводзілася, пішучы ў Маскву просьбы, каб уключылі „Ніву" ў каталог падпісных выданняў, пераконваць іх: **„Ніякі нам „Ніва" не вораг!"**

Беларусы, што апынуліся на Захадзе, спадзяваліся знайсці ў нашай газеце праўдзівыя весткі з Беласточчыны, а таксама з Беларусі, цанілі „Ніву" як фарпост новага адраджэнскага руху і выкарыстоўвалі кожную магчымасць выпісаць газету праз сваякоў і знаёмых, а нават наладжвалі падпіску на месцы, як гэта было хаця б у Нью-Йорку.

Адвечна праблематычным для нашых чытачоў было пытанне: **для каго робіцца „Ніва"?** На шматлікіх сустрэчах, у залежнасці ад таго, з кім мы сустракаліся, яны кіравалі да нас прэтэнзіі: то мы былі замала сялянскія, то каб давалі больш навуковых матэрыялаў, то няма нічога для моладзі, а то і замала гумару. Кожны са сваёй калакольні бачыў аптымальны варыянт „Нівы". І колькі разоў даводзілася журналістам пераконваць людзей, што „Ніва", яна — **для ўсіх беларусаў**, кім бы яны не былі: і для селяніна, і для настаўніка, і для паэта, і для вучня, а нават і для беларускага дзіцяці. Бо „Ніва" ў нас была адна.

Па „Ніве", а мо нават раней па яе дадатку для дзяцей „Зорцы" не адзін беларус Беласточчыны вывучаў літаратурную мову, будаваў сваю нацыянальную свядомасць. Што і гаварыць, „Ніва" памагала жыць. Многія сцвярджаюць, што менавіта дзякуючы ёй яны сталіся беларусамі. Ёсць у нас яшчэ чытачы, якія выпісвалі газету ад пачатку і чытаюць яе да сёння.

На працягу многіх гадоў рэдакцыя імкнулася шліфаваць **мову газеты**. Мова мела быць літаратурная, але не магла яна быць адарванай ад беластоцкага грунту, калі газета мела быць з людзьмі. І таму, зусім свядома, цэлай жменяй, мы чэрпалі з народных, дыялектных скарбніц, а ў гэтым дапамагалі нам вясковыя карэспандэнты, якія сыпалі нярэз, як з рукава, сакавітымі народнымі слоўцамі.

Рэдакцыя наогул прысвячала вялікую ўвагу сваім карэспандэнтам, допісы якіх дазвалялі чытачу загля-

*Працяг на стар. 4*

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Слухаючы ў дзяцінстве радыёкропку („точкай" яе ў нас называлі), запамяталіся мне кароценькія перадачы з Беластока, у якіх гаварылася на такой самай мове, якой карысталіся людзі ў нашай заблудаўскай вёсцы і ваколіцы. У школе настаўнікі часта звярталі нам увагу, каб мы не гаварылі паміж сабой „tym tutejszym narzeczem". Кіраўнічка часта паўтарала: „Szkoła daje wam szansę nauczyć się poprawnie mówić po polsku. Większość z was kiedyś przecież trafi do miasta i trzeba wreszcie zacząć mówić jakimś cywilizowanym językiem". Таму людзі, якія вялі радыёперадачу на беларускай мове, паводле мяне, былі вельмі адважнымі. У „вялікім горадзе" асмеліліся яны гаварыць на сваёй мове!

„Ніву", здаецца, ніхто ў вёсцы не выпісваў і не чытаў; а я калі нават пачуў такое слова — з нічым мне яно не атаясамлівалася.

У сямідзесятых гадах цяжка было знайсці ў Беластоку след беларускай прысутнасці ў гэтым горадзе. Школьная адукацыя выклікала сярод вясковай „навалачы" стан пачуцця ашаламляючага шчасця з прыналежнасці да высакароднай нацыі, якой адзіным няшчасцем было тое, што жыла ў акружэнні не надта цікавых народаў. Сярод гэтых суседзяў не было аднак беларусаў. Калегі палякі ведалі, аднак, што нейкія тутэйшыя беларусы пару разоў хацелі далучыць Беласточчыну да Расеі. Што за няўдзячнасць! Сябры з ваколіцы Міхалова, Орлі, Чаромхі, Гайнаўкі рабілі ўсё, каб даказаць, што не маюць нічога супольнага з гэтай злачыннай этнічнай групай.



*Аўрора і Юры Баена падчас апошняга з'езда карэспандэнтаў (1993 год).*

„Ніва" першы раз трапіла ў мае рукі, калі яе ствральнікі ўжо забылі пра юбілейны тысячны нумар (1975 г.). Быў у ёй здымак аднаго з маіх знаёмых і артыкул пра яго. Чытаў я тады і страшэнна мучыўся, хаця ўсё было напісана на мове, якой я карыстаўся з дзяцінства. Лягчэй было чытаць Дастаеўскага ў арыгінале. Вяртацца да гэтых тэкстаў не заахвочваў ні настаўнік у школе, ні патрэба штодзённага жыцця. Але ў 1983 г. зусім выпадкова я апынуўся сярод шматлікага навуковага калектыву, які збіраўся даследаваць палітычную культуру грамадства Народнай Польшчы. Мне, як беларусу, запрапанавалі апрацаваць тэму пра стан нацыянальнай свядомасці праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Здавалася, усё пойдзе лёгка, некалькі тыдняў працы і распрацоўка будзе гатовая. Выйшла зусім інакш, чым я думаў. Калі я знаходзіў адказ на адно пытанне, у тое месца з'яўлялася некалькі наступных. Ні ў архівах, ні ў навуковых артыкулах не знаходзіў я на іх адказаў. Пасля года працы я ведаў толькі тое, што не ведаю нічога. Сорам перад палякамі, сорам перад самім сабою. Ведаў я, якімі праблемамі жылі кватаранты егіпецкіх пірамідаў, не ведаў, аднак, якія пытанні турбавалі маіх прадзедаў, не ўспамінаючы што пра Багдановіча, Луцкевічаў ці Купалу чуў столькі ж, што пра славацкіх пісьменнікаў і палітыкаў.

Я зразумеў, што гэты факультэт трэба мне скончыць на ўласны рахунак. Сапраўдным універсітэтам стала для мяне „Ніва", а прафесарамі — журналісты і карэспандэнты тыднёвіка. „Ніва" была для мяне хронікай беларускага жыцця Беласточчыны, дакументам пасляваеннай эпохі. І нават калі хтосьці пісаў пра выратавальную ролю ленінізму ў гісторыі чалавецтва, не было гэта нічым кампраметуючым у той час. Так пісалі і гаварылі амаль усе сённяшнія аўтарытэты дэмакратыі. Было гэта толькі адлюстраванне стану свядомасці 60-х ці 70-х гадоў. Такі артыкул паказваў, якімі катэгорыямі думала наша інтэлігенцыя, напрыклад, 20 гадоў таму, або які вобраз свету хацела накінуць грамадству ўлада. „Ніва" з'яўляецца дасканалай крыніцай ведаў не толькі пры вывучэнні нашай гісторыі, але таксама знакамітым матэрыялам для сацыёлагаў, культуразнаўцаў, мовазнаўцаў. Калі



*Пётр Байко — жывая энцыклапедыя Белавежы.*

ў палове 70-х гадоў паказалася ў „Ніве" шмат артыкулаў, якія адлюстроўвалі дасягненні сацыялістычнай гаспадаркі, яе агульны прагрэс і шчаслівае жыццё грамадства, не абазначае гэта зусім, што ў рэдакцыі працавалі фанатыкі мінулай сістэмы. Так пісалі ў кожнай газеце ці часопісе. Знакамітым дакументам эпохі з'яўляецца, напрыклад, інфармацыя ад чытача, напісаная ў канцы 60-х гадоў, што ў яго вёсцы ніхто ўжо босы не ходзіць. Піша чалавек шчаслівы, што прыйшлося яму жыць у багаты час. Акружаючую рэчаіснасць параўноўваў ён да трыццатых ці саракавых гадоў. У галаву чалавеку не прыйшло параўнаць свае тадышнія ўмовы жыцця з варункамі, у якіх жыў тагачасны селянін якой-небудзь „імперыялістычнай" краіны.

Гадавікі „Нівы" чытаў я тады як вялікі раман, пазнаёміўся на яе старонках з людзьмі, якіх ніколі не бачыў, але якія тут жылі і стваралі нашую гісторыю. З часам стала мне відавочным, што грамадскасць, якая не піша пра сябе і свае праблемы, раней ці пазней перастае існаваць для свету. „Ніва" ратуе ад забыцця шматлікія тэмы, якія ніколі не павінны загінуць, пакуль на Беласточчыне жыць будуць беларусы. Тое, што запісанае, жыве даўжэй, чым людзі, якія былі яго аўтарамі. Застаецца яно сведкам эпохі. „Ніва" ёсць і будзе сведкам нашай тут прысутнасці, хронікай нашай культурнай спадчыны і, урэшце, калектыўным партрэтам беларусаў Беласточчыны.

**Яўген Міранові ч**

# У ЗЫХОДНЫМ ПУНКЦЕ

*Працяг са стар. 3*

нуць у кожны, нават найбольш глухі куточак беластоцкай зямлі. Яны давалі нам сігналы пра тое, што дзеецца ў іх вёсцы. **Яны бачылі глыбей, бо былі на месцы.**

Яшчэ гадоў пяць таму ў рэдакцыі ўспаміналі колішняе „хаджэнне ў народ" журналістаў, як нейкую неверагодную казку — як гэта, каб не было машыны, якую ў любы момант можна заказаць для случага ў „тэрэн" журналіста! А сёння неспадзявана хутка вярнуліся мы да зыходнага пункта, ды толькі „хадзіць" ужо нам не надта ахвота.

Мо ў сувязі з гэтым, а мо з-за іншых абставін, бо ўсім вядома, што вольны рынак палажыў у нас прэсу на лапаткі, значна знізіўся тыраж „Нівы". І зноў, як калісьці, не можам прабіцца на Беларусь. Заходу мы ўжо не надта патрэбныя, бо ёсць простая дарога на Менск. І зноў, як на пачатках, „Ніва" гнездзіцца ў цесным памяшканні, бо Гарадская ўправа ў Беластоку чамусьці вырашыла, што ў такім рэпрэзентацыйным пункце, у якім мясцілася наша рэдакцыя на працягу трыццаці пяці гадоў, не можа знаходзіцца сёння нешта горшае, чым прыватная крама з швейнымі машынамі, або прыватны ксерограф! Няма дзе прыняць чытача ці афіцыйнага госця, а што ўжо гаварыць пра нейкі з'езд карэспандэнтаў ці лістаношаў, якія раней арганізоўваліся рэгулярна. Праўда, можна было б звадзіць таго-сяго ў навенькі бліскучы паб, які адкрылі якраз пад нашым былым памяшканнем, ды ці ж вытрымала б гэта кішэнь журналіста з месячнымі заробкамі, роўнымі дзённым заробкам вулічнага гандляра?!

І каб паставіць кропку над „і": роўныя сярод роўных, былі мы ўсё ж крышачку раўнейшыя, чым сёння.

**Ада Чачуга**

# ДВА ЭПІЗОДЫ

У пачатку маёй прафесійнай працы ў „Ніве", якая пачалася ў 1988 годзе з пасады галоўнага рэдактара, было шмат трывожнага і радаснага, многа новых сітуацый, з якімі даводзілася мне сустракацца ўпершыню. У той час акурат мянялася палітычная абстаноўка, якая мела рашучы ўплыў і на працу рэдакцыі. За чатыры гады майго ніўскага шэфства было шмат цікавых момантаў, з ліку якіх прапаную чытачам два эпізоды.

Першы датычыць кантактаў з Беларуссю. У 1988 годзе сталі наладжвацца кантакты Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом „Радзіма" з БГКТ. У верасні адбыўся рабочы візіт дэлегацыі „Радзімы" ў Беласток, падчас якога былі намечаны галоўныя напрамкі супрацоўніцтва. З кастрычніка „Ніва" стала даступнай у Беларусі ў падпісцы і ў розначным продажу, дзякуючы чаму тыраж яе павысіўся з 3 300 на 5 800 экземпляраў. У гэтым месцы варта прыгадаць, што з моманту ўвядзення ваеннага становішча ў 1981 г. у Польшчы „Ніва" не трапляла нават у „Ленінку" — нацыянальную рэспубліканскую бібліятэку.

Беларускія чытачы „Ніву" ўспрынялі вельмі прыхільна. Сталі прыходзіць цёплыя лісты, з'явіліся замежныя карэспандэнты, свае творы сталі дасылаць літаратары, не толькі пачаткоўцы. У той час у БССР таксама пачаліся палітычныя зрухі, а гарбачоўская перабудова і галоснасць дазволілі ўзнікнуць нефармальным суполкам і непадцэнзурным выданням. У нас была вялікая цікавасць да новых з'яў у Беларусі і яна знаходзіла адлюстраанне на старонках „Нівы". Пачалі паяўляцца допісы карэспандэнтаў з Беларусі, сталі пісаць пра нефармалаў і нашы журналісты. Ніўскія публікацыі пра нефармальныя суполкі моцна не падабаліся менскім чыноўнікам, аб чым я меў нагоду пераканацца асабіста.

Вясною 1989 года рыхтаваўся рэвізіт дэлегацыі БГКТ у Менск. Арганізатары рэвізіту з „Радзімы" настойвалі, каб у склад дэлегацыі ўключыць галоўнага рэдактара „Нівы". Ужо ў Менску, калі апынуліся мы ў кабінеце гаспадара нашай пабыўкі і правялі першую гутарку, усвядоміў я сабе, чаму патрэбны быў рэдактар. На стале ляжала некалькі экземпляраў „Нівы", а наверсе — нумар з выказваннямі лідэраў „Талакі" і са здымкам нефармалаў з бел-чырвонабелымі сцягамі. І сапраўды, пад канец візіту гаспадары правялі са мною папераджальную размову, падкрэсліваючы шкоднасць такіх публікацый у „Ніве" для польска-савецкіх адносін і пагражаючы прытым, што не будуць яны садзейнічаць распаўсюджванню „Нівы" ў БССР.

Публікацыі аб адраджэнскай плыні ў БССР, аднак, не спыніліся. „Ніва" ў далейшым працягвала пісаць аб новых з'явах у палітычным жыцці Беларусі, а польская цэнзура не перашкаджала ў гэтым. Я толькі стаў больш асцярожным і пільнаваў, каб у публікаваных тэкстах не было адкрытай атакі і з'едлівых эпітэтаў у бок улад БССР. А дарогу „Ніве" на беларускі чытацкі рынак праз год перакрылі не палітычныя рашэнні, а толькі эканамічныя фактары, калі абедзве краіны перайшлі на доларавыя разлікі.

Другі эпізод датычыць фінансавання „Нівы". Пасля парламенцкіх выбараў у 1989 годзе, калі ПАРП страціла ўладу ў краіне, партыйны канцэрн РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" адмовіўся выдаваць нерэнтабельныя выданні, у тым ліку і перыёдыку нацыянальных меншасцей. Пад восень 1989 г. стала вядомым, што нацыянальныя таварыствы і такія ж выданні з 1 студзеня 1990 года курыраваць будзе Міністэрства культуры і мастацтва. У лістападзе адбылася першая сустрэча старшынь таварыстваў і рэдактараў меншаснага друку з новым кіраўніцтвам Міністэрства. Віцэ-міністр ва ўводным слове заявіў, што Міністэрства не будзе абмяжоўваць нашу дзейнасць ці ўмешвацца ў яе, што нам даецца поўная воля. Аднак, у сказаным нічога не было пра грошы і першы дыскутант, які прадстаўляў якраз яўрэйскае таварыства, адразу спытаў, як будзе фінансавацца дзейнасць меншасных арганізацый і іх выданняў. Віцэ-міністр яшчэ раз падкрэсліў, што меншасным арганізацыям даецца поўная свабода, але дзяржава фінансаваць іх не можа, паколькі новы закон не дазваляе дзяржаве фінансаваць грамадскія арганізацыі. На арганізацыйную і выдавецкую дзейнасць трэба самім знайсці крыніцы фінансавання. І ў гэты момант, калі гаспадары нарады павінны былі спадзявацца эйфарыі сабраных з выпадку дадзенай ім свабоды, прагучаў стогн і лямант: усе сталі даказваць, што без фінансавай падтрымкі дзяржавы дзейнасць меншасных арганізацый і выдаванне часопісаў немагчымыя, што новы закон прывядзе да ліквідацыі тых форм культурнай актыўнасці нацыянальных меншасцей, якія былі да гэтай пары. Першая нарада закончылася ў мінорным настроі. Праз месяц адбылася другая. Гэтым разам папрасілі нас скласці праект бюджэту паасобных арганізацый і рэдакцый на 1990 год. Адлягло на душы. З гэтай пары кожны год атрымоўваем датацыю Міністэрства культуры і мастацтва, дзякуючы якой кожны тыдзень „Ніва" з'яўляецца на сталах у чытачоў.

**Віталь Луба**

# ВЕРАСЕНЬ 1939 ГОДА

*Успаміны*

1 верасня 1939 г. мой бацька ўзяў мяне з сабой на чыгуначны вакзал у Чаромсе, дзе ён кожны месяц атрымоўваў у касе пенсію за працу на чыгунцы перад I сусветнай вайной і ў час вайны. Працаваў ён на некалькіх чыгуначных станцыях, спачатку тэлеграфістам, а пасля начальнікам станцыі. У 1920 г. вярнуўся ён аж з-за Петраграда дамоў. І хаця ён добра ведаў польскую мову, улады не прынялі яго на чыгунку, бо быў беларусам. Прыйшлося яму стаць селянінам на зямлі, якую атрымаў ён у спадчыне ад свайго бацькі. Калі ў 1932 г. быў падпісаны між Польшчай і СССР пакт аб ненападзенні, то СССР выплаціў золатам кампенсацыю для тых пенсіянераў, якія пры цары працавалі на чыгунцы. І такім чынам мой бацька атрымаў у 1933 г. штомесячную пенсію і кампенсацыю за 1921—1932 гады. Астатнія пенсіі былі невялікія, усяго 60 зл., але яны былі падмогай на гаспадарцы. Тады літр малака каштаваў 15 гр., кілаграм масла — 1,80 зл., а цана жыта вагалася ад 8 да 12 зл. за цэнтнер.

У Польшчы было тады вялікае беспрацоўе і сезонныя працаўнікі на чыгунцы, якія пракладвалі шпалы, атрымоўвалі за дзень працы ад 1,80 да 2 зл. І цешыліся людзі, што прынялі іх на працу.

Я ў чэрвені 1939 г. закончыў шосты клас Пачатковай школы ў Чаромсе і здаў экзамены ў тэхнікум у Брэсце. 1 верасня я павінен быў паехаць у Брэст, дзе мяне чакала кватэра і школа, але ў сувязі з пагрозай вайны бацька затрымаў мяне дома.

1 верасня 1939 г. на станцыі Чаромха было многа салдат, але мы прайшлі да будынка чыгуначнага вакзала спакойна і ніхто нам не сказаў, што ўжо пачалася вайна. Нават касір, які выплачваў пенсію майму бацьку, таксама прамаўчаў. У кіёску з газетамі бацька купіў часопісы „Дзень добры" і „Русское слово". У газетах яшчэ аб вайне не пісалі, але адчувалася пагроза. Я добра чытаў па-руску, бо бацька мой яшчэ перад школай навучыў мяне чытаць на рускім буквары, а па-польску я навучыўся чытаць сам, не помню нават як і калі. Пайшоўшы ў першы клас школы, я ўжо добра чытаў па-польску. У вёсцы Чаромха была 4-класная школа. Сялянскіх дзяцей прымушалі вучыцца 2 гады ў трэцім класе і 3 гады ў чацвёртым. Калі я закончыў трэці клас, бацька завёў мяне і двух маіх сяброў на станцыю Чаромха і там, дзякуючы знаёмаму настаўніку, прынялі нас у чацвёрты клас. Дырэктар школы марудзіў і не хацеў нас прымаць, але пасля кароткага экзамена па матэматыцы, згадзіўся. І так з вёскі Чаромхі толькі нас трох у 1939 г. закончыла шосты клас.

Вяртаючыся дамоў мы нават не ведалі, што ўжо пачалася вайна. І толькі калі мы перайшлі на другі бок чыгуначнага шляху, спаткаў нас сын мясніка і паведаміў нам аб вайне. Сказаў, што сёння зранку прыляцеў на станцыю нямецкі самалёт і пусціў некалькі чэргаў з кулямёта па вагонах з салдатамі і некаторых параніў. Мы тады хутчэй пайшлі дамоў. На наступныя дні пачаліся налёты нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў на станцыю Чаромха. Страляла зенітная артылерыя, але ні аднаго самалёта не збіла. З вёскі Чаромха мы добра бачылі гэтыя самалёты і чулі іх працяглы гул у небе і выбухі бомб. Многія жыхары са станцыі Чаромха раз'ехаліся да знаёмых у вёсках, пакінуўшы свае дамы. У нашай хаце спалі дзве сям'і, а трэцяя — начавала на сене ў пуні.

Памятаю жахлівы дзень 8 (ці 9) верасня, калі на станцыю Чаромха прыляцела больш, чым заўсёды, нямецкіх самалётаў і бамбардзіроўка прадаўжалася мінут 20—30. Раптам пабачылі мы пажар з боку вёскі Кузава, на якую немцы кідалі фосфарныя і фугасныя бомбы. Праўдападробна на скрыжаванні чыгуначных дарог Брэст — Беласток і Седльцы — Ваўкавыск ля віядука паблізу Кузавы стаяла зенітная гармата. Немцы яе заўважылі і з-за гэтага спалілі вёску. Я бачыў тады, як у многіх, якія глядзелі на бамбёжку з адлегласці трох кіламетраў, ад страху дрыжэлі сківіцы. Калі адляцелі самалёты, хутка прыйшла ноч і полымя пажару ад Кузавы доўга яшчэ ззяла на ўсходзе. На наступны дзень на лузе між вёскай Чаромха і Кляшчэлямі прызямліўся польскі самалёт-знішчальнік. Жыхары вёскі хутка акружылі яго і прыкрылі зялёнымі галінамі, каб не заўважыў яго нямецкі самалёт. Лётчыкі гаварылі, што былі над Усходняй Прусіяй. На крылах самалёт меў некалькі дзірак ад нямецкіх куль, а прызямліўся ён, бо скончыўся бензін. Калі недзе ўгары загудзеў нямецкі самалёт, усе людзі, якія акружалі лётчыкаў, разбегліся, але ён праляцеў бокам. Польскі знішчальнік адляцеў вечарам, дзесьці на поўдзень. Больш налётаў на станцыю Чаромха ўжо не было. І раптам 13 верасня зранку я пачуў, што па дарозе Кляшчэлі — Высокае, якая праходзіла ля самай вёскі Чаромха, гудзяць гусеніцы нямецкіх танкаў. Ад Кляшчэль у напрамку Брэста ехалі без перапынку адзін за адным танкі, грузавыя аўтамашыны, аўтамабілі, матацыклы, гарматы і іншая ваенная тэхніка. Дзесяткі сялян стаялі побач, глядзелі і дзівіліся, а немцы не звярталі на іх увагі, ехалі і ехалі. І толькі калі стала ўжо цямнець, да людзей пад'ехаў на матацыкле нейкі афіцэр і крыкнуў, каб усе разышліся. Ехалі яны ўсю ноч і амаль увесь наступны дзень. Пасля ўсё заціхла. Настала безуладдзе. І тады сяляне з навакольных вёсак кінуліся на станцыю Чаромха грабіць дзяржаўнае. Забіралі ўсё, што было ў вагонах і ўсё што было ў чыгуначных і дзяржаўных магазінах, у канторах, пакуль усяго не вычысцілі. Многія насілі тавары на плячах, а некаторыя прыязджалі нават вазамі. На поўдні чуваць было далёкія водгукі баёў і туды часта ляцелі эскадры нямецкіх самалётаў. Нават па дарозе ў Высокае не ехалі немцы на сваіх машынах. І раптам 19 верасня прыехалі ў вёску сотні нямецкіх грузавых аўтамашын з салдатамі і затрымаліся ля дамоў на агародах. Відаць, зрабілі сабе адпачынак. Салдаты былі прыгожа адзетыя, спявалі і ігралі на мандалінах і гітарах. Мне адзін немец даў пашкоджаную мандаліну, з невялікай шчарбінай ззаду. На ёй добра іграў потым мой бацька.

У жніво я зарэзаў сярпом мезенец на левай руцэ. Палец не хацеў гаіцца, расло нейкае дзікае мяса. Нямецкі лекар, які праходзіў і заўважыў мой мезенец, завёў мяне ў сваю машыну, выцягнуў лякарства, пасыпаў нейкім парашком, прылажыў мазь і забінтаваў. Праз тыдзень рана зажыла. Салдаты былі ветлівыя да сялян. Многім давалі мясныя і іншыя кансервы, дзецям даравалі пліткі шакаладу, цукеркі. І тады ад немцаў мы даведаліся, што яны адсюль хутка ад'едуць, а сюды прыйдуць рускія салдаты. 20 верасня яны ад'ехалі і зноў было ціха, і толькі па дарозе ў бок Кляшчэль ехалі ад часу да часу нямецкія грузавыя машыны з салдатамі. Танкаў, якія вярталіся б з-пад Брэста, мы не бачылі. Відаць, ад'ехалі іншай дарогай.

І вось пад вечар 25 верасня ў вёску ўвайшоў атрад польскай кавалерыі. Усім сялянам было загадана ісці ў пуні малаціць авёс для коней. Было ўжо вельмі цёмна і мой бацька ўзяў ліхтар ды пайшоў малаціць. У нашую хату прыйшлі два падафіцэры і папрасілі, каб іх накарміць. Мая маці хутка паставіла на стол малако, хлеб, запаліла агонь пад плітой і падагрэла суп, які яны з апетытам з'елі. Пахвалілі вёску за тое, што не выставіла прывітальнай брамы для савецкіх салдат. Праўдападобна ў нейкіх вёсках такія прывітальныя брамы жыхары рабілі. „Калі б такая брама ў вас была, мы маглі б вёску пусціць з дымам", — сказаў адзін салдат. Не паспеў мой бацька намалаціць аўса ў пуні, як на вуліцы падняўся нейкі крык і ўсе салдаты хутка селі на коней і кудысьці ад'ехалі. З той пары ў вёсцы не было ні нямецкіх, ні польскіх салдат. Зноў поўнае безуладдзе.

І толькі 28 (ці 29) верасня разышлася вестка, што на станцыі Чаромха паявіліся рускія салдаты. Быццам бы невялікі атрад прыехаў цягніком. Я сам адзін пабег на станцыю. Ля вакзала сустрэў я некалькіх рускіх салдат у шэрых шынялях, з пілоткамі на галовах, з абмоткамі на нагах і з вінтоўкамі на плячах. Іх акружыла група сялян, якія хацелі ў іх даведацца, як жывуць людзі ў Савецкім Саюзе. Яны хваліліся. Але іх скромнае адзенне гаварыла само за сябе. Далёка ім было да немцаў, а нават да палякаў. Тады я пабачыў, што другая палова вакзала, дзе калісь быў рэстаран, была амаль поўнасцю разбурана. Навокал поўна было друзу. 30 верасня прыехаў ужо большы эшалон рускіх салдат. Пасля паявіліся і аўтамашыны, і нават гарматы. Прыйшло войска і ў вёску. Расквартаравалі іх па дамах. У нашым доме салдаты жылі амаль увесь кастрычнік. Спалі яны на саломе на падлозе. Салдаты і афіцэры кінуліся купляць усё ў магазінах, асабліва тэкстыльныя матэрыялы. На пачатку прадаўцы не ведалі вартасці рубля і прадавалі ім па польскіх цэнах (1 зл. : 1 рубля). Салдаты здзіўляліся, што ў Польшчы ўсё можна танна купіць.

У вёсцы амаль кожны вечар паказвалі на вольным паветры розныя фільмы, пераважна ваенныя, з часоў рэвалюцыі, з польска-савецкай вайны 1919—1920 гадоў. Людзі глядзелі іх з цікавасцю. Да 1939 г. рэдка хто ў вёсцы бачыў кіно. Часам нехта прыязджаў і ў нейкай хаце паказваў нямы фільм. Да вайны я толькі раз бачыў агучаны фільм на станцыі Чаромха. Гэта была кінакарціна аб абароне Чанстаховы ад шведаў. А савецкія фільмы ўсе былі агучаныя і паказвалі іх усім ды яшчэ бясплатна.

**Дзмітрый Шатыловіч**

<u>З нагоды аднаго пяцігоддзя</u>

# ПАЛІТЫКІ І РЭЦЭНЗЕНТЫ

У адрозненасці ад літаратуры і мастацтва, у палітыцы як быццам няма рэцэнзентаў... Але толькі фармальна, бо ў сапраўднасці поўна іх і там. Рэцэнзент — хто гэта ён? Той, хто ацэньвае, інтэрпрэтуе факт створаны кім іншым. Кніжку, кампазіцыю, палітычную акцыю. Рэцэнзент не мае ўплыву на ўзнікненне самога факта; можа спрабоўваць адно змяніць разуменне яго, успрыняцце грамадствам.

Літаратараў трымаецца жарт, што рэцэнзент — гэта нехта такі, каму не ўдалося быць творцам. Справядлівасць сказанага датычыць, аднак, неўдалотнікаў усякіх ды павярхоўных пісакаў. Таленавіты літаратурны крытык гэтак жа унікальны, як і добры пісьменнік.

Азіраючыся на пяцігадовы шлях палітычнага руху польскіх беларусаў, бачыцца і тое, і тое: паменшала палітыкаў як праектантаў і будаўнікоў пэўных рэаліяў, затое пабольшала рэцэнзентаў. Я гляджу на гэта ўсё ж як на норму, не прыкмячаю трывожнай анамаліі. Падобныя тэндэнцыі наглядаюцца ў грамадска-палітычных рухах наогул. Засноўваюць жа іх энтузіясты дадзенай справы ды не кожнаму хапае потым вытрымкі, маральнага гартунку, інтэлектуальнай кандыцыі. Тлумна расчароўваюцца аднадумнікі, асабліва ў частыя няўдачы; навокал процьма прыкладаў. Адыходзяць або пераўтвараюцца ў агорклых менавіта рэцэнзентаў учынкаў тых яшчэ, хто не апусціў рук. Прыкрая праўда ды іншае не бывае, такая яе прырода.

Зняверыцца — скажу і так — лягчэй і ўсяляк бяспечней, чымсьці не здавацца. Гэта, зрэшты, прабачальнае маладушным людцам. Ці ж гонар жаліцца на слабака?

І дадатковая знамянальная акалічнасць: сярод пачынальнікаў беларускага палітычнага руху ў Польшчы не ўгледзець былых нібы-патрыётаў з шумных некалі наменклатурных колаў нашай меншасці. Да канца засталіся вернымі сацыялістычнаму будаўніцтву ў Народнай Польшчы, захоўваючы ў шуфлядах свае партбілеты нават пасля самаліквідацыйнага з'езда самое Партыі, відаць, думаючы, што гэтая сумная імпрэза ўсяго ці камедыйная памылка, ці кплівая інсцэнізацыя вярхоў... Фантомы! Прапалі платныя штаты, а з імі і яны, дзьмутыя лідэры. Зніклі, усё роўна, што і не жылі ніколі.

Рух, арганізацыйна, усталёўваўся ўлетку восемдзесят дзевятага. Маладабеларускі, без жыццёвага вопыту, падатлівы на маніпуляцыю, байкатаваны пакаленнем бацькоў. Эйфарыя ў настроях. Малапісьменнасць у палітычнай практыцы. Не мог дабіцца праграмна-аптымальных вынікаў на хвалі ўздыму утапістаў, нярэдка фрустратаў. Катэгарычны прытым антыкамунізм у яго студэнцка-інтэлігенцкіх аніматараў самаізаляваў новапалітычнае асяроддзе ад сацыяльна зарыентаванай патэнцыяльнай грамадскай базы (пераважна з менталітэтам галоты і служкаў). Гаварыць тут пра драму справы не мае сэнсу, пакуль адсутнічае рэальная ёй альтэрнатыва, другое выйсце. Без пашырэння цывілізаванага беларускага нацыяналізму не выйдзем з фальклорнага ўзроўню этнічнасці, спеваў-танцаў купальскіх фэстаў. Глыне нас з бэбахамі настойлівы паланізм.

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА) ахарактарызавана „гміннай партыяй". Эпітэт цэльны, вызначальны: БДА чакае мітрэнга пераходу ад элітарнай групоўкі стартуючых у інтэлектуалізм маладзёнаў да рэпрэзентантаў баналу местачковай канкрэтыкі. Палітыка — гэта беспардонная барацьба інтарэсаў, а не рацыяў. Барджджэй матэрыяльных, чым духоўных пераваг.

Камунальныя выбары паказалі, што беларуская партыя паступова, хоць з затрымкамі, уваходзіць у сваю натуральную, неплатанічную, ролю (у Гарадку, у Бельску). З'явіцца яна ўсюды там, дзе лакальны польскі шавінізм правакуе абуджэнне інстынкту самааховы, я б сказаў: **канфлікт хлеба**, грызню за пасады і даходы (ідэалагічнасць яшчэ другарадная, як перш цела, а пасля адзенне).

Зорны час для БДА надыдзе не раней ад фінальнай кампраметацыі левых сілаў. Люд мусіць удосталь пажыць у ілюзіях, спадзяванні на дабрадзея зверху, які, вось, па-апостальску ашчасліўіць яго. Нацыяналізм у еўрапейскім — не нашым — разуменні, гэта тое, што самому браць лёс у свае рукі, замест абцалоўваць панскія халявы і адвешваць паклоны за чыюсьці ласку. Канцэпцыя моцнага мужчыны?

Глупствам ёсць лічыць, што камунізм спляжылі універсітэцкія дысідэнты або суперкаталіцкая „Салідарнасць"... Проста застаўся ён убаку, у кустах ля сусветнае магістралі прагрэсу, шалёнай дынамікі прадукцыі. Аказаўся сістэмай рэфлексіўных гультаёў, крыклівых дармаедаў, разявістых невукаў. Знішгожыўшы дарэшты працу і розум, замяніўшы ўсё і ўсіх у нешта кшталтам секты.

Ці БДА кліча да авантуры? Заклікае спакойна і неадступна бараніць тое, што спрыяе тутэйшаму дабрабыту ды культурнасці адначасна. Выходзячы з таго, што пятая-дзесятая гміна ў Беластоцкім краі ні трохі не абумоўлівае магутнасці Польшчы, таму паратунак ім у развіцці ўласнага патэнцыялу. Трэба свайго мазаля, каб намагчыся на годнае месца ў дзяржаве, калі не хочам зарасці маладнякамі, дзікалесам... Не пайсці ў свет наймітамі.

Без нацыянальных палітыкаў не выратуемся.

**Сакрат Яновіч,**
**Крынкі,**
**Ганаровы старшыня БДА**

Зорка
Старонка для дзяцей

# ВЕРАСЕНЬ

Продкі назвалі гэты месяц верасьнем, бо квітненне верасу было самай характэрнай з'явай у прыродзе, якая ўжо рыхтавалася да зімовага сну.

Закончана жніво, звезены ў гумны снапы. Людзі атрымалі тое, аб чым прасілі, пачынаючы ад Каляд. А таму бедны на абрады верасень. Але ўспомнім прымаўку: „Прыйшоў багач, кідай рагач, бяры сявеньку ды сей памаленьку". Свята Багач адзначалася 8 верасня, а сам Багач, відаць, быў богам дастатку, багацця. Багачом называўся і абрадавы хлеб, які пяклі, праўда, зімою, паўднёвыя славяне. На 23 верасня прыпадае пара восеньскага раўнадзенства. Ды ў адрозненне ад святкавання зімовага і летняга сонцастаяння, вясновага раўнадзенства вогнішчаў у верасні не палілі. Але вядома, што дзе-нідзе 24—25 верасня ладзілі даўней „імяніны гумна", абавязковым рытуалам якіх было ўшанаванне бога агню Сварожыча, сына Сварога, нябеснага бога. Цікава, што агонь палілі менавіта ў гумне, дзе ўжо ляжалі снапы. Пазней гэты абрад пертварыўся ў звычку падсушваць снапы перад абмалотам. У беларускім музеі народнай архітэктуры і побыту ёсць адно такое гумно, у якім для выканання абраду адведзена спецыяльнае месца. На збане-календары верасень пазначаны знакам сонца — касым крыжам, верхнія і ніжнія канцы якога злучаны вертыкальнымі рыскамі.

Здзіслаў Сіцько



*Канікулы ў горадзе.* Фота В. Кургановіча

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК ЗАЙМАЕЦЦА БІЗНЕСАМ

Любіла мышка Пік-Пік пачытаць перад сном газеты. Апошнім часам найбольш цікавілі яе рэкламныя аб'явы. У кожнай газеце друкавалі іх вельмі шмат, часам на цэлую старонку. І якія смачныя рэчы там прапаноўвалі! Шакаладкі, цукеркі, салодкія напоі з імпартовымі таямнічымі назвамі! Цудоўны тавар куплялі, прадавалі, абменьвалі... Мяркуючы па колькасці аб'яў, займаліся гэтым у кожнай прыстойнай сям'і. „Толькі мае гаспадары нічога ў бізнесе не кемяць!" — дзьмулася мышка. — „Сядзяць на адных „ганарарах", галадаюць. Не, трэба, каб у кватэры знайшлася хоць адна разумная дзелавая істота!" І мышка вырашыла заняцца бізнесам. Галоўнай мэтай мышчынага прадпрыемніцтва мусіла быць як мага большая колькасць імпартовых шакаладак. Але дзе іх узяць? „Першапачатковага капіталу" мышка не мела, кажучы прасцей — грошай у Пік-Пік не было. Заставалася адно — абмен! Але што магла прапанаваць Пік-Пік за шакаладкі? На што паквапяцца будучыя дзелавыя партнёры? Мышка абегла кватэру, але ўсе рэчы былі або вельмі патрэбныя сям'і, або надта ўжо непаглядныя. Перачытала ўважліва рэкламныя аб'явы і заўважыла, што побач з тэлевізарамі, дыванамі і парфумай у абменных аб'явах сустракаюцца пародзістыя шчанючкі і кацяняты. „А ў нас ёсць дарослая пародзістая кошка!" — прыйшло ў галаву Пік-Пік. — „Пепіта, напэўна, каштуе не менш, чым скрыня шакаладак! І да таго ж гэтая кошка — самая лішняя рэч у хаце. Якая ад яе карысць? Валяецца на канапе, чытае ды жарэ. Мне ж ўдзячныя гаспадары будуць!".

І мышка ўзяла Веранiччыны алоўкі і аркуш паперы і напісала прыгожую рознакаляровую аб'яву: „Мяняецца вельмі прыгожая і вельмі пародзістая кошка на каробку шакаладак". Унізе Пік-Пік не забылася пазначыць адрас і тэлефон і пачапіла аб'яву ў двары на слупе. Аб'ява вісела нізкавата, але жадаючы ўсё-такі мог яе прачытаць.

І вось вечарам, калі ўся сям'я была ў зборы, у дзверы пазванілі. Мама пайшла адчыняць, і Пепіта з цікавасці рушыла за ёю. На лесвічнай пляцоўцы стаяла тоўстая цётка ў белых штанах і яркай стракатай кашулі. Цётка трымала ў руках невялікую каробку. Пабачыўшы Пепіту, незнаёмка завохкала ад захаплення:

— Ай-яй, такая цудоўная кошка! Вырашана, я яе бяру! Трымайце вашы шакаладкі!

— Чаму гэта вы будзеце забіраць нашу кошку? — абурылася Мама. — І шакаладкі нам не трэба!

Цётка доўга высвятляла з мамай прычыну свайго візіту, нарэшце разззлавалася і пайшла. Але тут жа ў дзверы пазванілі зноў — на гэты раз дзядзька ў цёмных акулярах з каробкай паболей і папрыгажэй. Мама паклікала Тату, і на гэты раз удалося разабрацца, што прычына наплыву гасцей — аб'ява на слупе.

— Дык, значыць, я тут лішняя? — са слязьмі прагаварыла Пепіта. — Добра, я не буду гаварыць пра гуманнасць і элементарную прыстойнасць. Можаце мяне прадаць, абмяняць, здаць на мясакамбінат...

Але тут Мама, Тата і Веранічка пачалі запэўніваць Пепіту, што не пісалі гэтай аб'явы, і нагаварылі столькі добрых слоў пра абражаную котку, што тая нарэшце супакоілася.

— Але ўсё-такі хто мог зрабіць такую подлую справу?

Усе пераглянуліся між сабою і моўчкі пайшлі да норкі мышкі Пік-Пік.

— Выходзь, мыш! — строга сказаў Тата. — Я абмяняў цябе на новую пішучую машынку. Цябе забірае Акадэмія Навук для навуковых вопытаў. Збірайся, паслужы нарэшце чалавецтву!

Але з норкі ніхто не паказваўся. Мышка залезла ў татаву пантофлю, якую скарыстоўвала ў якасці канапы, і трэслася ад жаху. Дарэмна спрабаваў Тата выманіць бізнесменку з норкі.

Ноччу мышка пабегла на двор і зняла сваю аб'яву. І яшчэ некалькі дзён не паказвалася нікому на вочы...

Людміла Рублеўская

*СУРЭН МУРАДЗЯН*

# ВОЖЫК І КРАВЕЦ

*Казка*

Вожык— кравец,
Усе кажуць,
Што трэба.
Аднойчы
Спусціўся к яму
Месяц з неба:

— Майстар,
Хаджу
Без кашулі ля зорак.
Пашый мне яе,
Бо хадзіць гэтак — сорам.

— А што?
Я магу!
Дай здыму толькі мерку.
Як пройдзе пяць дзён,
Ты прыходзь
на прымерку.

Праз пяць дзён
Спусціўся той месяц
На ўзлессі —
Не можна ніяк
У кашулю улезці.

— Не атрымалася, —
Вожык замітусіўся. —
Прабач ты мне, Месяц,
Відаць, памыліўся.

Вымушаны зняць
З цябе новую мерку.
А ты праз пяць дзён
Прыйдзеш зноў на прымерку.

Як час праміную,
Месяц зноў заглянуў —
Кашуля не ўзлезла,
Як ні цягнуў.

Перад табой, Месяц,
Вельмі вінюся.
Трэці ужо раз
Я не памылюся.

І цэлых шэсць дзён
Ад рання да рання
Шыў Месяцу Вожык
Кашулю
Старанна.

У небе вячэрнім
Ён Месяца ўбачыў,
Які ужо стаў круглым,
Як дыня ці мячык.

— Што робіцца гэта, —
Вожык здзівіўся. —
І Месяц адразу
Узяў ды спусціўся.

— Ну, ці пашыў ты
Кашулю,
Ці не?
— Ты, бачу, смяешся,
Месяц, з мяне:

То ты — нібы дыні скрылёк,
То — як серп,
То — быццам бы шар
Над затокай ля верб.

Табе немагчыма
Нічога пашыць.
Будзеш ты, Месяц,
Як жыў, так і жыць...

Таму Месяц ноччу выходзіць,
Бо ўдзень
Вельмі саромеецца
Ён людзей.

*Пераклаў У. КАРЫЗНА*

З народных абрадаў

# ДАЖЫНКІ

Дажынкі адзначаліся сялянамі надзвычай урачыста і суправаджаліся рознымі абрадамі. У Гродзенскай губерні, напрыклад, жнеі, калі заканчвалі жніво, пакідалі сярод загона кучку жыта. Збіраліся ўсе жнеі, спявалі прысвечаную дажынкам песню, праполвалі зямлю пад сцяблямі жыта, абкладвалі невялікімі каменьчыкамі, а пасярэдзіне клалі большы камень, на якім пакідалі на полі кавалак хлеба і соль. Рукою, пакрытай хусткай, жняя зрэзвала жыта і клала ў самы вялікі сноп, а ў ім жанчыны заплятալі каласы ў „касу". Большыя каласы выцягвалі са снапа і вілі з іх вянок. Выбранай жняі ўскладалі вянок на галаву і з песнямі ішлі да гаспадара, які забіраў вянок і даваў жнейкам грошы. Калі ж дажынкі рабіліся талакой, гаспадар не плаціў жнейкам, а шчодра частаваў іх. Такія дажынкі былі апісаны настаўнікам Несцеруком (змешчаны ў III томе „Матэрыялаў для вывучэння быту і мовы насельніцтва Паўночна-Заходняга краю", 1902 г.). Яны нагадваюць і завіванне „бароды" — вельмі распаўсюджаны ў Беларусі абрад, вядомы многім еўрапейскім народам. Першая жнейка завязвала чырвоным каснікам некалькі дзесяткаў сцяблін жыта, праполвала іх, клала на зямлю хлеб і соль. Дзяўчаты рыхтавалі вянок з каласоў і кветак. Жнейка падразала „бараду" і адкідвала ўбок серп. Бараду ўскладвалі ў сярэдзіну апошняга снапа, адзявалі на галаву жнеі, абранай гуртам, і неслі сноп гаспадару нівы з песнямі. Вось адна са шматлікіх песень пра бараду:

*Сядзіць казёл на капе ды дзівіцца барадзе:*
*Дзіва, дзіва мне маёй барадзе.*
*Чыя ж то барада мёдам-вінам уліта,*
*Чорным шоўкам увіта,*
*Дзіва, дзіва мне маёй барадзе.*

Некаторыя традыцыйныя дажынкавыя абрады выкарыстоўваюцца і сучасна. У вёсцы Яўсевічы Петрыкаўскага раёна жанчыны пры дажынках рабілі з каласоў і палявых кветак вянок, ішлі да старшыні калгаса, адзявалі яму вянок на шыю, а ён частаваў жнеек.

Як святкуюцца дажынкі ў вашай мясцовасці — напішыце.

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

* * *

— Скажы, дзядзька, з чаго вецер робіцца?
— Вось дзіва! Зірні ўгару, што там ёсць?
— Неба.
— А ўнізе?
— Зямля.
— А пасярэдзіне?
— Ды нічога.
— Дык вось пасярэдзіне не нічога — скразняк. А як скразіць, дык і вецер.

* * *

— У якім вуху звініць?
— У левым.
— Не, не ўгадаў. У пра-а-авым.
— Значыцца, ты і сам ведаеш. Дык навошта пытаўся?

* * *

— Васіль цаляе са стрэльбы ў муху з адлегласці дванаццаці метраў.
— Ну, гэтага не можа быць!
— Далібог! Толькі ён муху малюе на ўсю сцяну.

* * *

— Ціт, ідзі малаціць.
— Жывот баліць.
— Хадзі кашу есці.
— А дзе мая вялікая лыжка?

* * *

— Мужыку і ў пекле горш, чым пану...
— Чаму?
— Бо пан спакойна сядзіць у катле і кіпіць, а мужык мусіць дровы сячы і пад кацёл класці.

* * *

У адной жанчыны запыталі, ці ўмее яна трымаць сакрэты.
— Вядома, — адказала тая. — Але бяда ў тым, што ўсе, каму я іх расказваю, не ўмеюць іх трымаць.

* * *

— Было гэта, браце, пры панах. Злавіў я ў панскім возеры шчупака — вялікага, вялікага! Нясу яго дахаты. Галава на плячы, а хвост па зямлі валачэцца.
Гляджу — ідзе насустрач пан. Што ж мне рабіць?
Аднак мужык я ніштο, здагадаўся адразу, што рабіць: шапку з сябе, шчупака ў шапку, а шапку на галаву... І прайшоў сабе хоць бы што: нічога пан не заўважыў.




*Выступае квартэт з Чаромхі.* **Фота М. Вауранюка**

З гісторыі Беларусі

# БЯРЭСЦЕ

Даўным-даўно, многа стагоддзяў назад, здарылася ўсё гэта. Кажуць людзі, што нейкі надта багаты купец прабіваўся са сваім абозам на торжышча аж но ў Балтыю. Ехалі не адзін дзень па непралазных пушчах. Здарожыліся людзі, стаміліся, але ўсё ж спадзяваліся выбіцца на больш-менш добры шлях. Ды не тут-то было! Аднаго дня ўехалі ў дзікае балота, дзе ўтапілася колькі коней разам з вазамі. Непрыкметна і ноч прыспела. Сядзелі, дрыжэлі прамоклыя да ніткі падарожнікі, але нават вогнішча не развялі — баяліся. Вельмі ж ужо месца страшнае, і невядома, чым усё гэта заўтра скончыцца. А навокал толькі жабы свае бесперапынныя песні спявалі, ды раз-пораз рагатаў-заліваўся нехта невядомы так, што аж но мароз па скуры прабягаў. Ледзьве да раніцы дачакаліся. Паспрабавалі знайсці свой учарашні шлях, каб звярнуць назад і неяк аб'ехаць балоцісты край, але нічога не маглі зразумець: ні слядоў колаў, ні нейкай дарогі відаць не было. Усё зацягнула-зараўняла твань. Яшчэ болей спалохаліся людзі, пазіраюць на свайго гаспадара, а той хоць малады быў, ды разумны і разважлівы не па гадах. Пазірае навокал задуменна, думае пра нешта. Потым сказаў:
— Прабівацца будзем толькі ўперад! Недзе ж павінен быць канец гэтаму балоту. Палова людзей гаць гаціце, а другая — дзярыце бярosту і гаць ёю высцілайце, каб коні не так правальваліся, ды і палохацца багны не будуць!

Пачуў, відаць, Бог словы звернутых да яго людзей. Стаміліся, але выбіліся на вышэйшае месца. Паснулі моцна падарожнікі. Раніцай падхапіліся бадзёрыя, вясёлыя і збіраліся ўжо рушыць далей, ды купец супыніў людзей:
— Усю бярosту, якую на гаць клалі, пазбірайце і сюды на ўзвышша складзіце! Будзем ехаць назад, калі ўсё добра складзецца, паставім на гэтым бярэсці капліцу!

Кажуць, што ўсё так і здарылася. З'явілася спачатку каплічка, потым — умацаванае паселішча, бо зручнае месца з боку абароны было. А назва тая і засталася — Бярэсце. Гэта ўжо потым, калі горад стаў, перайначылі на Брэст.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**

14

## САБАКІ МАЙГО МАЛЕНСТВА (2)

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Гасцяванне ў капыльскае цёткі Галавачыхі было няўсмак, хоць яна гасцінна і ласкава хацела як найлепш прыняць і дагадзіць. Не цярплівілася, калі ўжо скажуць запрагаць каня, каб трапіць назад у тыя самыя Ванелевічы, дзе згубіўся сабака. Без карысці... Хоць сунуліся праз вёску таксама павольна, і я зноў бясконца клікаў і высвістваў свайго друга.

Пабыўшы з тыдзень дома, я ўпрасіў бацьку яшчэ раз праехаць таею ж дарогаю, а можа, думаючы, што прывык, сабаку спусцілі з прывязі. Бацька не адмовіў, а з'ездзілі зноў жа без карысці. Вяртаючыся з нішчымнымі рукамі дамоў, ён растлумачыў, як трэба гаварыць:
— Евангелевічы на Ванелевічы перайначылі мясцовыя сяляне, каб лягчэй вымаўлялася...

Цяжка гаравалася мне тады. Вярнуўся да сяброўства са старымі нашымі сябрамі Ігманам і Саідам. Паходжанне іхніх мянушак не ведаю, хрысцілі старэйшыя браты.

Гэта была разумная пара. Каля насыпное дарогі з Вызны на Пагост пры землеўпарадкаванні бацьку прырэзалі кавалак зямлі. Там радзіла бульба, саджалі яе цераз год, і ў ёй тады нашы сабакі наладжвалі паляванне на зайцоў. Адзін клаўся ў канцы палосы ад саду, а другі забягаў з процілеглага боку і яхкаў, падскокваючы ў баразне, пакуль не выпуджваў зайца проста на свайго напарніка. Як яны потым дзялілі здабычу без грызні і крывепускання, не здагадаешся.

Само тое паляванне асачыў мой бацька. Ранні і руплівы чалавек, ён заўсёды ўставаў націмку, а тады якраз і ўзганялі зайцоў з роснага бульбяніку хвастатыя паляўнічыя. Яны зарошваліся, аж капала, і прыбягалі сушыцца і драмаць на зялёным грудку каля акон нашай хаты.

Маці стукала ў шыбу:
— Ці ўлавілі што? Абрасіліся-то добра, а што б у хату свежанінкі прынесці.

Саід дажыў да прыходу „першых неммаў" на Случчыну. Як з'явіліся, адразу загадалі насланць тратуары па абодва бакі неймаверна гразкіх селавых вуліц і прыкуць да калодзежных вочапаў вёдры, каб бабы не лазілі ў студню кожная са сваім. Апошняе ў загадзе — узяць на ланцуг усіх сабак.

Рэзонныя гэтыя захады заваёўнікі рабілі, не пра нас, вядома, дбаючы. Баяліся тыфусу і гішпанкі, што валілі тады людзей — на хатах, куды ўпадала хвароба, крэйдай пісалі назву яе, быў такі надпіс і ў нас на сцяне: доўга не ачуньваў старэйшы брат. Не менш палохала немцаў і магчымасць усшалецъ: хопіць за лытку кручаны сабака, і гатова.

Гразнуць па калені на вясковых вуліцах ім таксама не выпадала, а хадзіць трэба было, перапісвалі і таўравалі на канфіскацыю сялянскіх коней і кароў.

Ці мы не паспелі выканаць загад пра навязванне сабак, ці Саід злузаўся з прывязі, адным словам, ён здуру гыркнуў на немца. Салдат злажыўся і стрэліў. Сабака ўпаў, але неяк адпоўз ад варот, зашыўся ў куток пад паветкай і з тыдзень не еў і не піў, мы не ведалі, ці застанецца жыць. Яму пашанцавала: куля засела ў левай лапатцы, глыбей не пайшла. Потым, калі рана загаілася, мы намацвалі тую кулю пад скурай, сабака злаваў і гыркаў нават на сваіх.

Пад старасць Саід рэдка вылазіў са свайго схові шча, нават калі немцы адступілі. Амаль не брахаў, калі ж падаваў голас, дык не на чужога, а на сваіх, відаць, лаяўся, што малая пенсія.

Гулялі вяселле мае старэйшай сястры. Не забылі і сабаку, занеслі нечага з абруса, і хлопцы, падпіўшы, улілі яму ў горла шклянку самагону.

Саід сп'янеў і ўспомніў свае абавязкі: падаў голас і гаўкаў усю ноч.

Урсон, Шаста, Саід... Усяго наўспамінаў. А Дзік?

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ (1)

### Гарадоцкая даўніна

Гарадок належыць да найстарэйшых пасяленняў на тэрыторыі сённяшняй Кнышынскай пушчы, на перашыйку паміж балотамі і над ракою Супраслю, недалёка ад яе крыніц. Узнік ён у пераломны перыяд XI і XII стагоддзяў як абарончы гранічны гарадок, ад якога і паходзіць сённяшняя назва. Першапачатковабыло гэта гарадзішча беларускага племені дрыгавічоў. Пасля 1279 года траціць ён сваё абарончае значэнне і з'яўляецца толькі прыпынішчам на гандлёвым шляху. Быў гэта важны шлях з Каралеўства Польскага ў Вялікае княства Літоўскае. Існаваў тады стары гасцінец з Кракава ў Вільню (цераз Бельск —Нарву—Гарадок—Крынкі—Гродна, з адгалінаваннем на Свіслач—Ваўкавыск— Навагрудак).

У XV стагоддзі Гарадок быў галоўным месцапрабываннем багатай сям'і Хадкевічаў і быццам сталіцай іх земляў, якія займалі каля 800 квадратных кіламетраў. Сядзіба Хадкевічаў знаходзілася на ўзгорку, дзе раней быў абарончы гарадок, акружаны вадою: з паўночнага і ўсходняга бакоў — ракою Супраслю і з другіх бакоў — ставамі. Перад брамай быў мост на палях.

Род Хадкевічаў, герба Касцеша — адзін з найстарэйшых у Вялікім княстве Літоўскім. Роданачальнікам быў Годко Юр'евіч. Яго прозвішча зафіксавана ў дакуменце з 1476 года. Годко, ад якога ўзялося прозвішча роду, узнікла з дэфармацыі імя Фёдар.

У канцы XV стагоддзя сын Ходкі, Іван, калі быў ваяводам кіеўскім, атрымаў ад караля Казіміра Ягелончыка за вялікія заслугі, між іншым, падчас вайны з крыжаносцамі, значныя абшары Блудаўскай пушчы. Такім чынам Хадкевічы звязаліся з Падляшшам. У зямельным надзеле для Івана Хадкевіча ў Блудаўскай пушчы была і ўмацаваная з часоў ранняга сярэдневякоўя крэпасць у Гарадку.

У 1483 годзе Іван Хадкевіч трапіў у татарскую няволю і там памёр. Яго сын Аляксандр Івановіч, ваявода навагрудскі, пабудаваў на гарадзішчы замак, які быў больш прыдатны на рэзідэнцыю магната. На рэчцы Супраслі тады ўжо стаялі вадзяныя млыны і валюш. Пры грэблі плавілі жалеза з балотнай руды. Магнат заснаваў драўляную царкву св. Іаана Багаслова, а затым манастыр, у які разам са смаленскім архіепіскапам Іосіфам Солтанам запрасілі манахаў з Кіева, або як вымагае манашаская традыцыя, з Афонскай гары. Ад караля Зыгмунта Старога Аляксандр Хадкевіч атрымаў ва ўладанне Заблудаў разам з навакольнымі вёскамі. Калі гэты магнат купіў яшчэ Дайлiды, то ягоная маёмасць дасягнула ажно мяжы сённяшняга Беластока.

Ужо ў 1498 годзе манахі атрымалі дазвол і маглі перасяліцца ў іншае, больш спакойнае і ціхае месца, бо Гарадок быў для іх занадта шумны, гаманлівы. Начальнікам манастыра быў тады ігумен Панфуцій Сегень з Бельска. На новае месца будучага манастыра прывёў манахаў крыж — ёсць такое апісанне, — які плыў па рэчцы Супраслі, а манахі ішлі за ім спяваючы псалмы. Затрымаліся пасярод непраходнай пушчы ва ўрочышчы Сухі Брод над той жа рэчкай. У тым новым месцы мітрапаліт Іосіф Булгарыновіч 25 мая 1501 года пасвяціў новую драўляную царкву, а ўжо ў 1503 годзе манахі пачалі пабудову абарончага мураванага храма.

Аляксандр Хадкевіч памёр у 1549 годзе. Грамадскую дзейнасць бацькі належна прадаўжалі яго сыны Грыгорый і Юрый. У 1566 годзе першы з іх дайшоў да пасады гетмана літоўскага. Другі быў паслом, між іншым, у 1562 і 1566 гадах ездзіў у Маскву.

Гарадок часта пераходзіў з рук у рукі. Быў ва ўладанні Сапегаў, Пацаў, Мнішкаў, Патоцкіх, Радзівілаў і Клеменса Браніцкага. Усё ж былі асяродкам вялізных так званых нерухомых маёмасцяў называных нават „гарадоцкім графствам". Варта дадаць, што ў XV стагоддзі, у яго другой палове, усе пушчы: на паўднёвым усходзе Камянецкая (Белавежская), на ўсходзе Ваўпянская, на захадзе Бельская і на поўначы Гарадзенская, належалі да вялікіх князёў літоўскіх. З часам паўставалі — у сувязі з новымі падзеламі маёмасцяў — меншыя лясныя комплексы, між іншым, Гарадоцкая, Крынская ці Ялоўская пушчы, межы якіх збягаліся на тэрыторыі сённяшняй Гарадоцкай гміны.

Пра Гарадок ёсць пісьмовыя інфармацыі ад 1533 і 1558 гадоў. Ці меў ён гарадскія правы? Ні лакацыйны акт, ні гарадскія правы прызнаны Гарадку не вядомы. У 1558 годзе Гарадок быў мястэчкам. У ім дзве вуліцы збягаліся каля пераправы цераз рэчку, на яе левы бераг. Тут часта адбываліся кірмашы. Да падзелаў Польшчы Гарадок належаў да Ваўкавыскага павета ў Навагрудскім ваяводстве.

Пасля 1795 года Гарадок належаў да Прусіі, а ад 1807 года — да Расіі. У тым часе налічваў ён 66 дамоў і 388 жыхароў. „Геаграфічны слоўнік" ад 1881 года падае, што ў 1878 годзе Гарадок налічваў 1 793 жыхароў. Займаліся яны, між іншым, вырабам найлепшага па якасці корту. Ткалі яго на ручных кроснах. Нядрэнны прыбытак мела з гэтага 200 сем'яў.

Болей спрыяльныя ўмовы для развіцця гэтага роду прамысловасці склаліся пасля таго, як у 1886 годзе побач з Гарадком (у адлегласці 2 км) была пракладзена чыгунка, якая спалучала Беласток з Баранавічамі. Мястэчка знаходзілася тады ў межах царскай імперыі і за вываз тэкстыльных матэрыялаў у глыб Расіі не трэба было плаціць мыта. У 1890 годзе ў Гарадку дзейсных было ўжо чатырнаццаць механічных ткальняў, у якіх працавала 265 рабочых, а на працягу 15—20 гадоў лік ткальняў ды прадзільняў павялічыўся да 22 і было 576 рабочых.

Працаваць даводзілася вельмі цяжка. Уласнікам заводаў, першнаперш нямецкім прадпрыемцам, залежала толькі на высокім прыбытку. Пра ўмовы працы яны зусім не дбалі. Таму вельмі рана гарадоцкія рабочыя пачалі бунтавацца. Першыя хваляванні сярод рабочых здарыліся тут у 1895 годзе, а пасля забастоўкі і бунтарскія выступленні адбываліся ў 1905—1907 і 1910 гадах. У 1905 годзе Гарадок налічваў 3 535 жыхароў.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**




*МІРА ЛУКША*

* * *

рэч жыве
у сваёй вечнасці
а не ў тваім слове

**верш**

неабходны
як глыток паветра
коранем-лязом
расплавіць мур і сталь

*БАРЫС РУСКО*

**Від з турыстычнай базы**

Здалёку лепей відаць
смутак чакання,
бірузу пацалунка,
неабдымнасць прысутнасці,
пагоню ўцёкаў.
І лепей відаць форму ўладання
і матыў страты,
і перавернутую піраміду магчымасці,
і смех з нямечы паўтарэння.

І відаць роспач над прорвай
з падсцілу год
і рыкшу, што вядзе данікуль
самога сябе,
і сцяну, што адгароджвае усіх і ўсё,
і душу, што жабруе
цукерка жыцця.

Зблізу лепей відаць даму,
што ўцякае —
у мяккай сукенцы,
у пальчатках да локцяў,
босую ў разгубленасці.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**блізка**

прачніся побач мяне
блізка
бліжэй чым кранае далонь і зрэнка
між намі няма нічога лішняга
ні слова ні хвіліны
калышуць наш сон маладыя зарніцы
бязважкія і сінія
і толькі летні золак
ірдзеннем сораму тузае ноч
кароткую
быццам твая спадніца

**стоячы насупраць сусвету**

стоячы насупраць сусвету
не рэчы
чаго нам трэба
дабра
багацця
спачування
асыпаецца дрэва слоў
моўчкі ў шэрань
дорыш мне нялюдскую вечнасць
скупымі абрэзкамі неба
і пасылаеш
на другі бераг

# Песенніцкія таленты ў пушчы

Ужо чацвёрты раз у Белавежы сустрэліся маладыя песеннікі з усёй Польшчы, каб на працягу двух жнівеньскіх тыдняў папрацаваць над польскай песняй. Кіраўнік гэтых сустрэч, Станіслаў Фялкоўскі, кампазітар, дырыжор і дырэктар вядомага аркестра „Big Warsaw Band", удакладняе: „Хочам паказаць маладым выканаўцам, як выглядаюць этапы працы над паасобнымі творамі, таксама хочам звярнуць іх увагу на некаторыя справы, аб якіх яны дагэтуль не ведалі, а наканец, песеннікі маюць магчымасць паспяваць з жывой рытмічнай секцыяй, якую штогоду забіраю з сабой ў Белавежу" (сёлета ў секцыі ігралі: Артур Грудзіньскі, Мацей Лятальскі, Марэк Пяскоўскі, Томаш Вільчыньскі, Пётр Петшак і Анджэй Блажэйчык).

Як штогоду, песеннікі пасяліліся ў Начлежным доме ПТТК, што ў Палацовым парку, а на заняткі хадзілі ў Белавежскі асяродак культуры. Заняткі сёлета вялі два вядомыя польскія кампазітары: Юль'юш Лёранц і Мацей Лятальскі, джазавы вакаліст Марэк Балата, спецыяліст па інтэрпрэтацыі і рэжысуры песні, а заадно і харэограф Ян Шурмей, музыкант з Беластока Раман Зялінскі і, вядома, сам С. Фялкоўскі. У маладых выканаўцаў гасцявала вядомая песенніца Данута Блажэйчык.

Белавежская сустрэча мае яшчэ і тую мэту, што выяўляе і падрыхтоўвае выканаўцаў на фестываль „Беластоцкія мальвы", што адбываецца ў Беластоку (у г.г. ён будзе працягвацца ў днях 1—2 кастрычніка). На думку С. Фялкоўскага, сёлета ў Белавежу прыехала некалькі вельмі таленавітых аматараў песні, якія падаюць надзею на будучыню. Іх напэўна пабачым на беластоцкім фестывалі.

На заканчэнне сустрэчы, якую называюць „warsztaty muzyczne", песеннікі (а хутчэй песенніцы, бо на 14 чалавек быў толькі адзін мужчына), выступілі перад белавежскай публікай. Некатарым дзяўчатам прыйшлося выступіць упершыню ў іх песенным жыцці.

Шмат маладых песенніц прадстаўляла Беласток. Як першая на канцэрце выступіла 17-гадовая Агнешка Дамброўская. Яе аднагодка Юліта Кавальчык музыкай займаецца, пад кіраўніцтвам Ежы Томзіка, усяго няцэлы год. Іншая падапечная Е. Томзіка, на год старэйшая за свае сяброўкі Эва Скшыпко, у Белавежу прыехала ўжо другі раз. Яна вельмі любіць спяваць і ў яе гэта нядрэнна атрымоўваецца. Чарговая беластачанка, 15-гадовая Караліна Ціхы, была наймаладшай удзельніцай курсаў. Яна, апрача таго, што цікавіцца песняй, іграе яшчэ на фартэпіяна.

З Нарвы ў Белавежу прыехала 17-гадовая філігранная Эва Якубоўская. Яна надта экспрэсіўная, а спявае яшчэ і ў царкоўным хоры.

З Супраслі паходзіць няшмат старэйшая за К. Ціхы, Агнешка Мушынская, таксама падапечная Е. Томзіка. Яна ўжо год спявае ў мясцовым доме культуры.

Свінавусце прадстаўляла 19-гадовая Дыяна Майка, якая спявае ўжо шосты год, Варшаву — Маргарэт Слізоўская, сёлетняя выпускніца музычнай школы I ступені (спявае ад мая г.г.).

З Коніна прыехалі дзве дзяўчыны — Эвеліна Фялкоўская і Эва Ермакоўская. Супадзенне прозвішча першай з прозвішчам шэфа „варштатаў" невыпадковае. С. Фялкоўскі прыходзіцца Эвеліне дзядзечкам. Эвеліна з'яўляецца членам вакальнага калектыву, зрэшты, музыцыруе ўся яе сям'я. Эва ў сваю чаргу, названая іншымі ўдзельніцамі белавежскай сустрэчы пяшчотна „Мурашкай", ходзіць у музычную школу. Яна ўжо выступала на мінулагоднім фестывалі „Беластоцкія мальвы", а заадно была і ў Белавежы.

Кутна прадстаўляла сёлетняя выпускніца тамашняй сярэдняй школы Магдалена Гжэбянёўская. Яна найахвотней выконвае джазавыя творы. З Кельцаў жа выводзіцца Іаанна Бернер, студэнтка Вышэйшай педагагічнай школы, якая дэбютавала сёлета на фестывалі ў Апалі. А з Цеханова ў Белавежу завітала Іаанна Радэцкая, выпускніца асветна-культурнага студыума; яна спявае ўжо другі год.

Наканец трэба ўспомніць аб „мужчынскім разынку", як яго ў Белавежы найменавалі самі „варштатоўцы", значыць аб Гжэгажу Ваўжэньчыку са Страўчына, што ў Кялецкім ваяводстве. Ён вельмі таленавіты музыка і песеннік; Гжэгаж навучае дзяцей музыкі, выступаў у ансамблі „Іра".

Чатыры ўдзельніцы „варштатаў" і „мужчынскі разынак" займаліся два тыдні ў калектыве, які потым назвалі „Зубры". Група гэтая вельмі ўдала заспявала на канцэрце песню „Na wczasy do Kinszasy".

Канцэрт запісвала на кінаплёнцы здымачная група Варшаўскага тэлевізійнага цэнтра.

Белавежскую сустрэчу арганізавалі Саюз польскіх аўтараў і кампазітараў у Варшаве і Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку. Яе спонсарамі былі: суполка „Pronar" з Нарвы, Манецкі асяродак культуры, беластоцкія „Fasty", „Uchwyty", піваварны завод, група беластоцкіх музыкаў „Old-boye" а таксама ўласнікі прыватных крамаў: Т. Кавальчык, В. Гжэх і С. Бацін.

Развітваючыся з Белавежай, удзельнікі „варштатаў" і іх арганізатары пажадалі сустрэцца тут праз год. І няхай гэтак станецца. Белавежцы надта ўжо палюбілі сімпатычных маладых вакалістаў і іх апекуноў.

**Пётр Байко**

# УСЕКНАВЕННЕ ГАЛАВЫ СВЯТОГА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

Святому Іаану Хрысціцелю адсеклі галаву ў 32 годзе па Нараджэнні Хрыстовым у цямніцы, у якую быў ён укінуты Ірадам Анціпам. Гэты апошні быў сынам Ірада І Вялікага, які абвінавачваўся ў смерці віфлеемскіх немаўлят. Ірад Анціпа быў жанаты з дачкой арабскага караля Арэфы. Кінуў яе, аднак, для Ірадыяды, жонкі свайго брата Піліпа, яшчэ пры яго жыцці. У сувязі з тым, што было гэта яскравым парушэннем закону Божага (Левіт 18:16, 20:21), Св. Іаан Хрысціцель паказваў цару Галілеі яго незаконныя і заганныя паводзіны. Паказваў таксама на супрацоўніцтва Ірадыяды ў гэтым нячысцым саюзе. Неўзабаве Ірад, абураны словамі Прарока, заключыў яго ў цямніцы, а яго незаконная жонка з гэтай пары толькі прагнула смерці вязня. Ірад ведаў Св. Іаана ўжо раней, часта з ім гутарыў і лічыў яго вялікім, святым чалавекам. Баяўся ён смерці Прарока, але не столькі перад Богам, колькі перад людзьмі: „І хацеў яго забіць, але пабаяўся народа, бо яго ўважалі за прарока" (Матф., 14:5).

Святы Іаан Хрысціцель будучы ўжо ў турме, сустракаўся са сваімі вучнямі, якія прыходзілі да яго, і вучыў іх аб Месіі, які ўжо прыйшоў. Пасылаў ён іх да Хрыста, каб бачачы чыненыя Ім цуды, паверылі, што Ён — Збавіцель (Матф., 11:2—5).

Аднойчы Ірад наладзіў баляванне з нагоды свайго дня нараджэння і запрасіў многа гасцей. Сярод іх была Саламія, дачка Ірадыяды, якая па ўгавору маці танцавала перад гасцямі, каб дагадзіць Іраду. Ейны танец так спадабаўся цару, што той паабяцаў здзейсніць усе яе жаданні, а нават аддаць ёй палову царства. Ірадыяда ўгаварыла дачку, каб тая папрасіла галаву Св. Іаана Хрысціцеля. Ірад, забыўшыся на ранейшы страх пазбавіць жыцця гэтага справядлівага мужа і хочучы стрымаць бяздумна дадзенае слова, паслаў у цямніцу салдата па галаву Св. Іаана.

Апостал Матфей так апісвае гэтае здарэнне: „А ў дзень народзін Ірада, скакала дачка Ірадыяды перад усімі і дагадзіла Іраду; таму ён пад прысягаю абяцаў ёй даць, чаго толькі яна ні папросіць. А яна, падбухтораная маці сваёю, сказала: дай мне тут на місе галаву Іаана Хрысціцеля. І засмуціўся цар; але дзеля прысягі і тых, што ўзляжалі з ім, загадаў даць ёй, і паслаў адцяць Іаану галаву ў цямніцы. І прынеслі галаву яго на місе, і далі дзяўчыне; а яна занесла маці сваёй. А вучні яго прыйшоўшы, узялі яго цела і пахавалі яго; і пайшлі, абвясцілі Ісусу" (Матф., 14:6—12).

Цела ягонае вучні забралі з турмы і пахавалі ў Севасціі, а галаву Ірадыяда, каб скрыць перад усімі, закапала ў зямлю.



Святы Іаан, як пры жыцці, так і пасля смерці быў Прадцечам Ісуса Хрыста. На зямлі прадвяшчаў ён прыход Госпада (Марк, 1:7), а пасля сваёй зямной смерці папярэдзіў сашэсце Хрыста ў пекла і данёс вестку аб Богу святым праайцам, якія яшчэ знаходзіліся ў пякельным палоне, чым суцешыў іх. Пасля разбурэння пякельных варотаў Уваскрэсшым Хрыстом, разам з імі быў ён выведзены адтуль і „заслужыў многіх карон у Царстве Нябесным, як жывучы ў чысціні, як жывучы ў пустыні, як Прадцеча і Хрысціцель і як мучанік".

Пасля смерці Св. Іаана Хрысціцеля Ірад праславіўся яшчэ адным недастойным учынкам. Смяяўся ён над Хрыстом падчас яго добраахвотных пакут за нас усіх (Лука, 23:11). Урэшце Ірад падвяргнуўся пакаранню за сваё жыццё і ўчынкі. Бацька яго першай жонкі, Арэф, перамог яго ў бітве, а імператар Калігула пазбавіў яго ўлады над Галілеяй і саслаў спачатку ў Галію, а пасля ў Іспанію. Жыў ён там разам з Ірадыядай і яе дачкой. Саламія загінула на замерзлай рацэ, калі лёд праламаўся і яна правалілася ў ваду, а ледзяная крыга адсекла ёй галаву. Неўзабаве ў нястачы і бедах загінулі Ірад з Ірадыядай.

Усекнавенне — гэта асаблівa посны дзень (нават у нядзелю спажываць можна толькі алей). У такі спосаб ушаноўваецца памяць Св. Іаана Хрысціцеля, які вёў вельмі аскетычнае жыццё (Матф., 3:4). Усхваляючы гэтага вялікага посніка і малітоўніка, Царква не бачыць іншай формы годнага ўшанавання памяці таго, які сваёй велічынёю вылучаецца з ліку пракрокаў народжаных на зямлі з жанчыны (Лука, 7:28), як малітва і пост.

Грэчаскія іконы Св. Іаана Хрысціцеля прадстаўляюць Святога Іаана як анёла, паколькі называлі яго „анёлам пустыні".

Памяць Усекнавення галавы Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Гасподняга Іаана ўшаноўваем 11 верасня (29.08 па старому стылю).

С.Н.

# Пачатак царкоўнага года

14 верасня (1.09 па старому стылю) пачынаецца новы Царкоўны год. Быў ён устаноўлены Айцамі Царквы на І Усяленскім Саборы ў 325 г. у Нікеі як памятка двух наступных здарэнняў.

Першае — датычыла Ісуса Хрыста, які ў гэты дзень, калі яўрэі святкавалі новы год, увайшоў у сінагогу ў Назарэце і прачытаў словы прарока Ісаі: „Дух Гасподні на Мне: бо Ён памазаў Мяне дабравесціць убогім і паслаў Мяне аздараўляць разбітых сэрцам, гаварыць вязням аб вызваленні і сляпым аб павароце зроку, пусціць змучаных на волю і абвяшчаць год Гасподні прыемны (Лук. 4, 18—19 — Ісая 61, 1—2).

Другое здарэнне — гэта перамога імператара Канстанціна Вялікага над Максенціем у бітве 1 верасня 312 г., у чым дапамог яму знак крыжа. Імператар заўважыў яго на небе разам з зорным надпісам „Гэтым перамагай!" у час ваеннага паходу. Гэтая перамога была адной з галоўных прычын аб'яўлення свабоды ў вызнаванні хрысціянскай веры.

У гэты дзень Царква дзякуе Богу за ўсе ласкі, пасыланыя на працягу года і просіць блаславенства на наступны год, каб: „благословил венец лета", „подал земли благоплодие, благорастворены воздухи даровал", „дела исправил в нас рук наших и согрешений прощение даровал нам".

Гэты дзень пачынае гадавы цыкл царкоўных набажэнстваў, характэрных тым, што паўтараюцца яны штогод у тыя ж самыя дні. Першым з вялікіх набажэнстваў у новым Царкоўным годзе з'яўляецца двунадзесятае свята Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі, якое ў народзе завуць Прачыстай і якое адзначаем 21 верасня (8.09 па старому стылю).

С. Н.

# КАБ НОВАЕ НЕ ЗАСЛАНЯЛА ТРАДЫЦЫІ

**Гутарка з ЯНАМ ПАЎЛІЦКІМ, аўтарам праекта адбудовы царквы на Святой Гары Грабарцы.**

**„Ніва":** *— Пасля спалення царквы на Грабарцы ўзніклі розныя праекты яе аднаўлення, ад рэканструкцыі па пабудову зусім новай, большай па памерах. Чым Вы кіраваліся, ствараючы свой праект?*

Ян Паўліцкі: — Святая Гара Грабарка і ўся яе субстанцыя кшталтаў і колераў не вытрымала б ніякай іншай формы апрача невялікай драўлянай царквы. Пабудова аб'екта іншага, чымся драўляны, пераўтварыла б Святую Гару ў зусім іншую якасць. Магчыма, гэта было б і нешта цікавае, але закранула б усё, што цяпер рашае аб прыгажосці Грабаркі. Цяперашняя прыгажосць — выключная, бо з'яўляецца яна апошнім драўляным вобразам мінулай Славяншчыны. Вядома, застаюцца і іншыя драўляныя царкоўкі, але няма ўжо падобнага архітэктурнага ансамбля. Згубіць гэта было б памылкай. Заўжды і ўсюды можна пабудаваць новыя, багатыя каменныя цэрквы.

Іншая справа, ці слушна было адбудоўваць Грабарку як напамін аб старой Грабарцы, а не дакладную яе копію. Не пярэчу, што дакладная копія задавальняла б мяне як праектанта ў такой самай ступені.

*— Усё ж такі Вы пайшлі на пэўныя змены.*

— Трэба памятаць аб псіхалагічных умовах стварэння пажарам Грабаркі. Сённяшняя царква мураваная і незгаральная. Шалёўка з вогнеўстойлівых, насычаных адпаведнымі хімікаліямі дошак стварае вобраз старой царквы. Гэты вобраз, уласна кажучы, звязаны з канструкцыяй старой царквы, якая таксама звонку мела шалёўку з дошак, пад якімі не відаць было бярвенняў. У тым праект не адступае ад ідэі рэгіянальнага будаўніцтва. Ды гэтае, што схаванае ад вока, не вырашае аб пластычнай каштоўнасці аб'екта.

Іншае пытанне — гэта пласт дэкарацый, якія ўзбагачаюць даўнюю форму. Усё-такі, у 1950 г. прафесары Дабжанскі і Навасельскі размалявалі інтэр'ер царквы роспісам, які раней тут не існаваў. Роспіс гэты натуральна ўпісаўся ў прыгажосць царкоўкі. Лічу, што вынясенне роспісу на вонкі аб'екта гэта толькі прадаўжэнне гэтага працэсу ўзбагачэння архітэктуры, якая з'яўляецца правам кожнага новага пакалення. Прыгажосць такога Кракава, гэта прыгажосць наслаёвання багацця стыляў.

Ёсць тут толькі адна засцярога: каб новае не засланяла традыцыі. Маю надзею, што ў выпадку Грабаркі такой небяспекі няма. Час накладзе сваю паціну на свежыя цяпер дошкі і ўзоры. Вернуцца птушкі пад капяжы царквы і калісь, як раней, уваходзячы на Святую Гару, адкрыем нанава цудоўныя строфы міцкевічаўскіх „Дзядоў": *Mrok tajemnic nas otacza, pieśń i wiara przewodniczy.*

*— Інтэр'ер царквы ўсё-такі ненадта напамінае мінуўшчыну.*

— Я цешуся, што не наступілі якія-небудзь значныя адступленні ў вонкавым выглядзе аб'екта. Вялікая ў тым заслуга праваслаўнага разбяра з Сямяціч Вячаслава Шума, які з'яўляецца добрым духам Грабаркі. Ён выканаў фрызы і разбярскія дэкарацыі.

Як праектант я не маю ўплыву на грамадскае затрабаванне на больш трыумфальныя формы, якія з'явіліся ў інтэр'еры храма. Лічу, што гэта не месца, каб золатам даказваць сваё багацце, бо багацця праваслаўя золатам даказваць нікому, хто думае, не трэба.

*— Грабарка, як архітэктурны ансамбль, выклікае ўражанне бязладдзя.*

— Святая Гара Грабарка — гэта вельмі цяжкі праектны палігон, бо мае ў сабе цудоўную неўпарадкаванасць даўняга будаўніцтва. Незвычайна цяжка сучаснаму будаўніку, выхаванаму на матэматычнай логіцы, пранікнуць глыбока ў гэту мяккасць дрэў, узгоркаў і архітэктуры. Такім чынам, не здзіўляюся, што ўсе сучасныя пабудовы на Грабарцы няўдалыя, хаця напэўна можна было пазбегчы яркай бяздумнасці.

Над цэласным добраўпарадкаваннем Грабаркі я думаў яшчэ падчас студыяў, таму з вялікім энтузіязмам і надзеяй ўзяўся я за працу над праектам агульнага добраўпарадкавання Гары. І тут сустрэла мяне сур'ёзнае паражэнне. Падчас праектавання я пачаў адчуваць сваё бяссілле ў рашэнні праблемы Грабаркі інструментамі, якімі паслугоўваецца сучасная архітэктура. Больш за два гады трывала маё *катарсіс*, ачышчэнне з таго, што перадалі мне мае прафесары. І толькі тады я мог, больш інтуітыўна, чым свядома, яшчэ раз узяцца за праект. Гэтая затрымка выклікала пэўнае расчараванне ў інвестара, які вельмі доўга чакаў вынікаў маіх праектных прац і хіба на нейкі час пакінуў думку аб цэласным добраўпарадкаванні Святой Гары. Думаю, што гэта не памылка, бо сучасны на кожным кроку даказвае сваю бяздумнасць у дачыненнях да прыгажосці прыроды. Мусіць, трэба пачакаць, каб мы змаглі ўзнавіць з ёю дыялог форм, які бесперапынна трываў у архітэктуры да веку асветніцтва.

Цяпер на Грабарцы будуецца толькі драўляны гаспадарчы аб'ект для манастыра. Гэты аб'ект будуецца без ведання майго праекта, але ўпісаўся ў яго з дакладнасцю да сантыметра. Маю надзею, што гэта сведчыць аб пачатку пэўнай логікі ў будаўнічае матэрыяльнай будучыні Святой Гары.

*— На Беласточчыне няспынна адбудоўваюцца або будуюцца новыя цэрквы. Іхняя архітэктура выклікае супярэчныя пачуцці.*

— Пытанне сучаснай архітэктуры цэркваў, касцёлаў ды наогул сакральнай архітэктуры — справа мала сказаць пільная. Праблема гарыць ясным гарам і кліча ратунку. Усё-такі баюся, што трагічная сітуацыя, якой не думаю скрываць, гэта зусім не віна архітэктараў. Я нават не хачу паказваць вінаўных. Думаю, што ўсё хрысціянства, як усходняе, так і заходняе, знаходзіцца на парозе глыбокіх перамен, якія прывядуць да ўзнікнення ў нейкай будучыні новай мадэлі літургічнага перажывання, значыць, і новай мадэлі храма. Мае прадчуванні падказваюць мне, што гэтай новай мадэлю можа быць вяртанне да пэўных старахрысціянскіх форм. Пацвярджае гэта штораз большая папулярнасць склепаў, якія з'яўляюцца ў сучасных пабудовах. Людзі выбіраюць іх як месца нутранай глыбокай малітвы, у адрозненне ад традыцыйных форм, якія не столькі асвячаюць зямлю, як гэта было калісь у намерах Царквы, колькі сваёй крыклівасцю гвалтуюць і топчуць яе прыгажосць.

**Гутарыў АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# 38 ГАДОЎ ТАМУ І ПАЗНЕЙ „НІВА" ПІСАЛА

Створаная вялікім Ленінам Камуністычная партыя Савецкага Саюза заваявала любоў і прызнанне ўсіх працоўных савецкай краіны, як арганізатар і натхніцель сусветна-гістарычных перамог савецкага народа, як перадавы атрад міжнароднага рабочага руху. Разам з усімі народамі славіць камуністычную партыю беларускі народ.

*(спецыяльны нумар, 26 лютага 1956 г.)*

* * *

Пастанова І-шага З'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства:

1. Дзеля рэалізацыі пастаноў V Пленума ЦК Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі адносна павелічэння вытворчасці сельскай гаспадаркі пастанаўляем скіраваць усе сілы на авалоданне навейшай агратэхнікі, а таксама выкарыстаць усе формы працы з сялянамі ў мэтах перабудовы земляробскай вытворчасці на сацыялістычны лад, які можа запэўніць неагранічанае развіццё дабрабыту і культуры.

*(н-р 1, 4.03.1956)*

* * *

Мы, беларусы, грамадою
Спалучым звонкі голас свой!
І заспяваем жа, брат, з табою
Падзяку партыі за тое,
Што добра нам жывецца,
Што „Ніва" выдаецца.

*(н-р 4, 25.03.1956)*

* * *

Вітамін асновай правільнага функцыяніравання арганізма.

*(н-р 30, 23.09.1956)*

* * *

Доўгачаканая свабода слова падпарадкавала сабе сэрцы людзей. Але ў гэтым энтузіязме пачуліся і варожыя галасы — групы польскіх шавіністаў. Нацыяналістычныя клічы і беспадстаўнае дакучанне беларусам узмоцніліся ў апошнім часе. Здзіўляе толькі, якім правам гэтыя варожыя элементы асмельваюцца праследаваць беларусаў! Хто ім даў такое права?

Беласточчына, асабліва яе ўсходняя паветы (дзе гуртуецца асноўная маса беларусаў і дзе апошнім часам мае месца шавіністычная нагонка на іх), гэта зямля так сказаць гранічная. Беларусы яе засялялі, як толькі далёка сягае памяць гісторыі. Іх ніхто сюды не прывёз, яны з нікуль не прыйшлі, а жывуць і працуюць тут з дзеда-прадзеда. Гэта іх бацькаўшчына і гэты куток зямлі ім дарагі і яны яго не пакінуць.

На працягу гісторыі ўжо не раз выяўляліся імкненні польскіх нацыяналістаў, мэтай якіх было даказаць, што беларусаў няма. Не ўдалося.

*(н-р 38, 18.11.1956)*

* * *

Дзякуючы народнай уладзе, маем беларускія школы і вышэйшыя навучальныя ўстановы, і „Ніву".

*(н-р 100, 26.01.1958)*

* * *

Пралетарскі інтэрнацыяналізм, вучыць ленінізм, немагчымы без любві да свайго народа, таксама, як патрыятызм немагчымы без інтэрнацыяналізма, без баявой салідарнасці з працоўнымі іншых нацый і краін. У барацьбе за сацыялізм, мы заўсёды ішлі пляччо ў пляччо з прагрэсіўнымі сіламі польскага народу

*(з даклада старшыні ГП БГКТ Аляксандра Давідзюка на II З'ездзе Таварыства).*

*(н-р 110, 6.04.1958)*

* * *

Новы год уступіў на парог нашай хаты. А мы з табой вып'ем за яго чарку залацістага віна. Вып'ем за тое, каб увесь год мы не трывожыліся словам „вайна", за тое, каб праект СССР аб усеагульным разббраенні стаўся фактам, вып'ем і за тое, каб Народная Польшча ўзбагацела ў новым годзе, а з ёю і мы, за тое, каб без падтрымкі засталіся людзі, якія для ўласнага „Я" снуюць інтрыгі.

Вып'ем за нашы больш асабістыя справы. За тое, каб мы самі былі разумнымі і разумна выхоўвалі сваіх дзяцей. Каб усе, хто адзінокі, знайшоў сабе сябра, хто не кахае — пакахаў, хто сумуе — развесяліўся.

*(н-р 201, 3.01.1960)*

* * *

Горад
Заплаканы горад...
Сёння весткаю
Вёску не радуе.
У бязмежнай далі — прасторы:
„Ленін памёр" —
Нясе радыё
— Хай памёр...
Але ў сэрцы нашу я
Яго імя — ён будзе жывым...
Мікіта з жалобаю ў сэрцы
Не зводзіў вачэй з партрэта
— Ці ж можа Ленін памерці?
Не веру,
Не веру я ў гэта.

*(н-р 203, 17.01.1960)*

* * *

Нас звалі Польшчай „Б". Значыць, горшай, адсталай. І ўсё гэта была праўда. Такімі мы былі ў параўнанні з Польшчай „А". Але ў колішніх умовах мы не маглі быць іншымі. Цяпер падымаемся. Пашыраем крокі, каб ісці ў нагу з Познаньскім, са Шлёнскам. Цяжка дагнаць, але адлегласць усё бліжэйшая.

*(н-р 317, 17.02.1963)*

* * *

З Паўлаў у Беласток пясчаная дарога. За апошнія гады змяніўся на ёй транспарт. Ужо не ездзяць жалезныя вазы, а толькі балоны і трактары. Многа па гэтай дарозе праязджае матацыклістаў. І апрача старых бабулек, якія ходзяць маліцца ў рыбалаўскую царкву, ніхто ў руках ужо не носіць абутку. Усё змянілася і змяняецца далей.

*(н-р 398, 13.10.1963)*

* * *

У бельскай маладзёжнай арганізацыі ЗМС адбываецца справаздачна-выбарчая кампанія пад знакам 25-годдзя ППР, 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і Х-годдзя існавання ЗМС. Гэтая кампанія з'яўляецца падрыхтоўкаю да чацвёртага краёвага з'езда ЗМС у Варшаве.

*(н-р 594, 16.07.1967)*

* * *

Што з беларускай праблематыкай, напрыклад, у Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку? Здавалася б, у беларускамоўным Гарадку гэта праблематыка з'яўляецца зусім натуральнай, неабходнай, патрэбнай і г.д. Тым часам відаць гэту праблематыку як бы дзесьці на перыферыі дзейнасці гэтага Дома, якому ніхто нават не здагадаўся зрабіць двухмоўную табліцу. Беларуская праблематыка ў Гарадку паказваецца ў па-ру песнях, адным танцы, і ў так званых акадэміях, напрыклад з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі — выступалі беларусы — удзельнікі рэвалюцыі. Дзейнасць гарадоцкага Дома культуры мае характар занадта універсальны, занадта, скажам, еўрапейскі.

*(н-р 615, 10.12.1967)*

* * *

Споўнілася 65 гадоў з дня нараджэння І-га сакратара ЦК ПАРП Уладыслава Гамулкі. Сардэчна віншуючы з юбілеем, жадаем таварышу „Веславу" многіх год жыцця на славу нашай народнай краіны.

*(н-р 728, 8.02.1970)*

* * *

20 снежня 1970 г. адбылося VII пленарнае пасяджэнне ЦК ПАРП. Пленум прыняў адрачэнне Уладзіслава Гамулкі ад абавязкаў І сакратара ЦК у сувязі з яго цяжкай хваробай. Пленум выбраў на пасаду І сакратара Эдварда Герка.

*(н-р 774, 27.12.1970)*

* * *

5 красавіка г.г. у Гайнаўцы адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. У апошнія гады павялічылася колькасць настаўнікаў, падрыхтаваных да навучання беларускай мовы. У канферэнцыі прыняў удзел сакратар ГП БГКТ таварыш Янка Зенюк. У сваім выступленні сакратар ГП высока ацаніў працу настаўнікаў беларускай мовы.

*(н-р 792, 2.05.1971)*

* * *

Штогод наша грамадскасць адзначае Дні лесу, і таму менавіта Ваяводскае праўленне Лігі аховы прыроды вырашыла арганізаваць 11 красавіка г.г. у кавярні Дома прафсаюзаў надзвычай цікавую сустрэчу з людзьмі лесу. Мерапрыемства было цікавае. Былі паказаныя цікавыя фільмы аб багатым жыцці фауны і флоры.

*(н-р 896, 29.04.1973)*

* * *

Даўно мінулі тыя часы, калі збожжа малацілі цэпам. Цяпер пра такую малацьбу і забыліся. Цяпер малоцяць збожжа малатарняй. Яна малоціць, вее, сартуе збожжа. А за дзень можна тры клуні абмалаціць.

*(н-р 1038, 18.01.1976)*

* * *

У пnative prasторнай канферэнцыйнай зале прафсаюзаў у Беластоку сабралася іх амаль сто чалавек. Майстры. Афіцэры перадавой лініі на фронце барацьбы за ажыццяўленне і падрыхтоўку планаў.

*(н-р 1060, 20.06.1976)*

* * *

Прадстаўнік ЦК ПАРП К. Манак у сваім выступленні падкрэсліў важную ролю БГКТ у рэгіёне і ўклад яе членаў у ажыццяўленне багатай праграмы грамадскага і культурнага развіцця Народнай Польшчы, што была прынята VIII з'ездам ПАРП.

Дырэктар адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў Э. Зарэмба побач з высокай ацэнкай дзейнасці Таварыства сказаў: „Ваша Таварыства можа ганарыцца вялікімі дасягненнямі ва ўмацаванні сувязей брацкага сужыцця насельніцтва беларускага паходжання з польскім насельніцтвам".

*(н-р 1269, 22.06.1980)*

* * *

І я, як і іншыя мае калегі, быў рыбаю, маўчаў... Цяпер не буду! У нашых ліцэях адвучылі нас нават гаварыць па-беларуску....

*(н-р 1318, 31.05.1982)*

* * *

Увядзенне ваеннага становішча прадухіліла контррэвалюцыйны пераварот, вярнула на вуліцы нашых гарадоў парадак, стварыла ўмовы для нармальнай працы.

*(н-р 1347, 07.03.1982)*

* * *

Дзяржава патрабуе збожжа, а ў гаспадароў кантрактацыйныя ўмовы ёсць, толькі збожжа няма.

*(н-р 1349, 21.03.1982)*

* * *

„Ніва" павінна быць для ўсіх беларусаў пражываючых у Польшчы.

*(н-р 1525, 04.08.1985)*

* * *

Характэрнай рысай амерыканскіх беларусаў з'яўляецца іх гасцінасць. Амерыканскія беларусы не страцілі яшчэ здольнасці добра з'есці, выпіць, а нават заспяваць. Наступная ўласцівасць амерыканскіх беларусаў — гэта іх эмацыянальнасць.

*(н-р 1709, 12.02.1989)*

* * *

Беларускія ахвяры ад камунізму можна без перабольшвання параўнаць з ахвярамі, якія беларускі народ панёс ад фашызму.

*(н-р 1745, 22.10.1989)*

* * *

Стан беларускай нацыянальнай свядомасці ўсім вядомы. Дайшлі мы да такой ступені самапагарды, што, мабыць, ва ўсім свеце знойдзецца нямнога народаў, якія б маглі з намі зраўняцца.

*(н-р 1786, 05.08.1990)*

* * *

Частка актыву БГКТ гэта сапраўды залатыя людзі і залатыя характары.

*(н-р 1861, 12.01.1992)*

* * *

У панядзелак 13 красавіка, а трэцяй гадзіне пасля абеду, калі большасць працаўнікоў рэдакцыі „Нівы" адсутнічала, сядзібу тыднёвіка на вул. Сурваскай 1 з наскоку ўзяла дзяяцкая эліта Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Удар быў нанесены на камп'ютэрнае абсталяванне, на якім рабіўся набор газеты.

*(н-р 1877—1878, 3—10.051992)*

* * *

Вы там у „Ніве" гэта балота і мяцежнікі.

*(н-р 1938, 4.07.1993)*

* * *

У Новым годзе жадаем нашым Чытачам надзеі на лепшую будучыню, спакою, здароўя і эканамічнай стабільнасці... Закаханым жадаем узаемнасці ў пачуццях, зайздроснікам — змірэння з лёсам, зласліўцам — пачуцця гумару.

*(н-р 1964, 2.01.1994)*




*„Ніва" адзначала ўсе важныя гадавіны.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прыснілася мне памерлая нядаўна сваячка. Яна жывая і прыгожая, і я зусім не ўсведамляю, што яна ж ужо памерла. Быццам бы вярнулася яна з далёкай заграніцы, куды сапраўды збіралася з'ездзіць. Сядзіць і расказвае, як там было.

Яна сядзіць крыху далей, а мы з адной нашай супольнай сяброўкай стаім і слухаем, як яна апавядае пра сваё падарожжа.

Мы з сяброўкай пераглядаемся — ведаем жа, што гэта мая сваячка ўжо не жыве, ды толькі яна сама нічога не ведае пра тое, што ўжо памерла. Пачынае паказваць, што прывезла з-за граніцы. І выцягвае прыгожае, дарагое футра. Яно з норкі, чорнага колеру, вельмі модна пашытае, з вялікімі плячыма. Я прыглядаюся і бачу, што гэта ж футра адной маёй знаёмай, якая сапраўды прывезла яго сабе з той жа краіны, дзе нібы была і мая сваячка.

Астроне! Сон мяне вельмі занепакоіў, бо я падумала, што ён можа быць звязаны з той знаёмай, футра якой паказвала як сваё сваячка. А ў той знаёмай — рак, ужо рабілі адну аперацыю. Ці мой сон не прадвяшчае ёй яшчэ горшае?!

Аня

Аня! Магчыма, што і так. Чаму менавіта твая сваячка-нябожчыка выбрала яе рэч і прысвоіла яе сабе?! Нядобры сон — для тае знаёмае.

Астрон

## НАКАРМІЛА

Мірон працаваў у лесе. Спачатку выплату прыносіў дадому, аддаваў жонцы, але пасля стаў выпіваць. Да таго дайшло, што ні граша не прыносіў жонцы.

Цяжка было Раісе. Дома трое дзяцей, і гаспадарку трэба даглядаць, і мужа накарміць, каб добра працаваў...

Урэшце, схітрыла. Адклеіла з паўлітроўкі наклейку і паклала між скібкі хлеба — такі сняданак дала мужу на працу.

Селі рабочыя есці. Мірон дастаў свой бутэрброд.

— Пэўна, кабеце не дагадзіў! — рассмяяліся мужчыны

Пакуль Мірон ехаў дадому, злосць прайшла.

— Рая, што ты мне такую смачную канапку дала?

— А ты мне на мяса грошы даў?

— Ну, неяк так атрымалася, што не...

— Памятай, так буду рабіць заўсёды. А стукні мяне, то ў суд падам і буду дамагацца аліментаў на дзяцей.

Прыйшлося Мірону кідаць піць і думаць пра сям'ю. Праз паўгода сябры пачалі яго бунтаваць:

— Што ты так бабу слухаеш? Выпі хоць раз ёй на злосць!

Зноў Мірон прыехаў дахаты без грошай.

На гэты раз Раіса дала мужу дзве скібкі хлеба і дзесяць бульбін. Калі Мірон убачыў замест яек сырую бульбу, аж закіпеў. Сябры давай зноў яму дапякаць.

— Раіса, колькі ты будзеш рабіць мне такія жарты?!

— Там еш, дзе твае грошы, — спакойна сказала жонка.

Ну, што зробіш — прыйшлося паслухаць Раісу. З той пары Мірон, калі ўжо вып'е, то толькі пад гумар.

Аўрора

## ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

**АРЭШНІК** *(22 — 31 сакавіка, 24 верасня — 3 кастрычніка).* Ён заквітае ранняй вясною, задоўга да таго, як пачынае распускацца лісце, але толькі той, хто цікавіцца прыродай, убачыць тыя кветкі. Затое ўжо пад восень рэдка хто абміне кусты арэшніку. Людзі спрадвеку збіралі смачныя і пажыўныя арэхі ляшчыны. Гэты харч да таго ж добра захоўваўся. Здаўна быў распаўсюджаны гандаль ляснымі арэхамі. У старажытным Рыме, напрыклад, кусты арэшніку садзілі на спецыяльных палетках. З арэхаў і цяпер выціскаюць невысыхаючы алей, які выкарыстоўваюць у вытворчасці фарбаў, мыла, касметыкі. З драўніны арэшніка майструюць розныя дробныя рэчы, а таксама выпальваюць вугаль для вырабу пораху. А кельцкія жрацы лічылі, што адпаведнікам арэшніку можа быць той, хто нарадзіўся 22—31 сакавіка і 24 верасня — 3 кастрычніка. Ён, як і арэшнік, не надта прыглядны і не кідаецца ў вока, але мае велізарны ўплыў на акружаючых. Абаяльнасць арэшніка амаль магічная, і ўсе ёй паддаюцца. Такія людзі ўмеюць падабацца, умеюць дамагчыся, каб імі захапляліся і кахалі. Але і яны зычлівыя да людзей, шчодрыя, цярплівыя і сціплыя. Калі арэшнік упадабае каго-небудзь, то зробіць усё, каб яго ашчаслівіць. Але душэўнай раны ён не прабачыць, а таму можа быць небяспечным.

*(працяг у наступным нумары)*

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Сяргей менш афіцыйна, больш ласкава, 3. самаробны драўляны пратэз для нагі, 5. сельскагаспадарчая прылада з зубамі, 7. вадаём, 9. акружнасць, 10. афіцэрскі чын у царскай арміі, 11. узнагарода, 12. правы прыток Дуная, 14. від папугая, 16. інтэрвал паміж аднайменнымі гукамі рознай вышыні, 17. вялікі кітайскі горад.

**Вертыкальна:** 1. прылада для сячэння, 2. лягушка, 3. мясцовасць у Галілеі, вядомая з перамены вады ў віно, 4. шэраг счэпленых звенняў, 6. планавае размеркаванне, 8. недарэчная задума, дзівацтва, 9. крыклівае дзіця, 11. гарачы попел, 13. узвышша з вытокамі Дняпра і Дзвіны, 14. кофе, 15. не цела.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 н-ра:**

**Гарызантальна:** клык, тайга, аполак, азон, палын, справа, палітура, Мілаш, канспект, рэстаран, ілгун, папараць, паніка, Агнія, рапс, дамінo, струп, Гаўс.

**Вертыкальна:** Самалі, Агрыпа, лезгінка, Кансу, кобра, барва, нашчадак, прасніца, мірт, лось, Берг, стан, Андропаў, льгота, унікум, пасаг, Піліп, парог.

Узнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу з Беластока.**

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 2. Агульны прагрэс Зоны

З Бабко я пазнаёміўся ва універсітэце. Ён вывучаў *Кліматычныя віры Зоны і наваколля*, а я *Праграмную забудову верхніх пластоў электроннай сахі.* У той час, можна сказаць, знаходзіўся я, як і сябры, у полі прыцягнення Зоны. Выпускаў з імі нерэгулярнік „Стычкі" ды падтрымліваў лучнасць з самой Зонай (маю тут на ўвазе Асацыяцыю народнай песні і танца, Творчы рух „Любасная Вяршыня", „Гоні", а таксама дадатак „Прытомністасць" у тых жа „Гонях"). „Стычкі", хаця заснаваліся не ў Зоне, і нават не ў Любагорску, выходзілі на мове Зоны, па-беларуску. Пры адзінаццатым неяк іхнім нумары ўзаконілася Згуртаванне выхадцаў Зоны, таксама па-за ёю. Але першы з'езд Згуртавання, на якім яго прэзідэнтам стаў Вава Мацько, прайшоў ужо ў Любагорску, у Асацыяцыі народнай песні і танца. З таго часу мая лучнасць з Зонай стала паступова мацнець. Лагічным завяршэннем гэтага працэсу было маё паступленне на працу ў рэдакцыю „Гоняў". Юры Бабко ўчапіўся ў мясцовым вяшчанні Любагорска „Любоў", адкуль вяшчаў для Зоны Агульна Абавязваючыя Прынцыпы.

Працуючы ў „Гонях", прыглядзеўся я лепш усім абумоўленасцям Зоны і дзеючым у ёй арганізмам. У той час у Зоне дзеілі: Асацыяцыя народнай песні і танца, Творчы рух „Любасная Вяршыня", рэдакцыя „Гоняў", Маўзалей Зоны, Згуртаванне выхадцаў Зоны (з выгнання перанеслася ў Любагорск, а затым у саму Зону) ды маладая рэдакцыя „Месячніка" — якраз арганізавалася, хлопцы назваліся так, бо задумалі пісаць пра грамадска-канфесійныя абумоўленасці жыцця на Месяцы. Гэта напачатак. Неўзабаве ўзніклі: Нацыянальная дэмакратыя Зоны, Таварыства „Давайце падзейнічаем", Клуб „Інтэрнацыянал", Сябрына чуць пісьменных ды Раскопкавае таварыства „Чарапок". Працэс узнікнення быў поўнасцю кантраляваны. Пільна сачыў за ім, вядомы ўжо чытачу, Хвядос Юрыга Які Не Быў Чорны. Але, відаць, разгубіўся і ён, бо стварыў яшчэ Раду арганізмаў Зоны (РАЗ), а пры ёй Генеральную прэзідэнцкую асамблею. Асабіста добра памятаю, як аднаго разу ў сядзібе Асацыяцыі народнай песні і танца інаўгуравалася РАЗ. Рада аганізмаў Зоны (варажылі мы ёй даўгавечча) не спрацавала ўжо ад таго першага разу. Што ж, у месца РАЗ узнік Звяз Усяго і Усіх у Зоне. Вось так прыблізна выглядалі абумоўленасці Зоны, калі пачынаў я сваю працу ў „Гонях".

Спачатку блыталіся мне назовы ўсіх гэтых арганізмаў, прозвішчы прэзідэнтаў, персанальная прыналежнасць дзеячаў да паасобных арганізмаў. Памятаю, як аднаго разу пайшоў я на пасяджэнне РАЗ, а ў палове зарыентаваўся, што я фактычна ў Маўзалеі. Тады цвёрда рашыў, што мушу быць добрым нацыяналістам — па нейкай прыдуманай прычыне ўзяў два дні водпуску ў „Гонях", сеў спакойна ў хаце і напамяць вывучыў азбуку Зоны.

Услед за гэтым агульным цывілізацыйным прагрэсам у Зону ўваходзіў таксама і тэхналагічны. Як сёння, памятаюцца мне тыя ўмовы, у якіх давялося мне працаваць першы год у рэдакцыі „Гоняў". Старыя і выслужаныя машыны, традыцыйныя метады... Але змены нельга было паўстрымаць. Выканаўчы камісар Асацыяцыі народнай песні і танца Іспанец Люлько — „Гоні" і Асацыяцыя жылі тады ў самым лепшым сімбіёзе, у Асацыяцыі абавязвала яшчэ мова Зоны — абсталяваў рэдакцыю новымі прыладамі. Мы атрымалі: дзве электронныя сахі, адзін нейтронны плуг, механічную і лазерную бароны, а таксама магнітна-стэльважны перадатчык бульбы. Уся рэдакцыя адчула, што з такімі прыладамі мы здолеем зрабіць не абы-які прагрэс...



*Андрэй Гаўрылюк заўважае ў прыродзе кожную дэталь.*

## Не забівайце павука!

На ўсім свеце жыве каля сарака тысяч відаў павукоў. У Польшчы спаткаць іх можна каля тысячы — ад маленькіх да сярэдніх: велічыні ад дробу міліметра да сантыметра. А на свеце ёсць такія веліканы як птушнік — цела яго дасягае 10 сантыметраў, а канечнасці — чвэрці метра.

Павукі паўсюдна будзяць страх і агіду, але мала якія з іх пагражаюць чалавеку. У нас ёсць некалькі відаў з моцнымі пашчэнкамі, што маглі б пракусіць скуру чалавека. Укус „нашых" павукоў можа выклікаць невялікі боль і зачырваненне скуры. Мяне ўкусіў вялікі павук — называюць яго „крыжакам", носіць на спіне „крыж", калі я збіраў парэчкі. Горш было б, калі б гэта быў павук трапічны — у некаторых з іх ёсць яд, які можа забіць чалавека.

**Андрэй Гаўрылюк**



"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Фотагісторыя „Нівы”



*„Ніва” хадзіла ў народ.*



*„Нівай” усебакова апекавалася магутная арганізацыя.*



*Ля кіёскаў стаялі чэргі за „Нівай”.*



*Журналісты прымалі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Беласточчыны.*



*„Ніву” цанілі ўлады.*

* * *

Дзень ліпеня дваццаць другі.
Мінае за годам год новы.
Шлях пройдзены намі даўгі,
Будуем свой край паспяхова.




*Дэкадэнцтва „Нівы” пачалося вясною 1992 года. Сумленную працу замянілі сакрэтныя дамовы, аплёўванне заслужаных дзеячаў і артыстаў ды палітычныя правакацыі.*



*Дэкаданс можна было наглядаць таксама падчас мінулагодняга з'езда карэспандэнтаў.*



*Сакрэтная нарада.*



*Абмяркоўваецца чарговая палітычная правакацыя.*



*Зараз на працу прымаюць не па палітычных крытэрыях, але па красе.*



*— Што рабіць? Куды дзявацца? Вось да чаго давяла незалежнасць!*